наша СВАБОДА

№43(270) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

23 КРАСАВІКА 2002 году АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 2100-253, факс 2100-254

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

# Іншы шлях?

Аргкамітэт «Чарнобыльскага шляху-2002» вырашыў памяняць першапачатковы маршрут акцыі. Нагодай для гэтага стаў адказ з Мінгарвыканкаму, які дазваляе жалобнае шэсце па маршруце Акадэмія навук – плошча Бангалор. Арганізатары пагадзіліся на гэты кампрамісны варыянт гарадскіх уладаў.

Нагадаем, што першапачаткова акцыю планавалася правесці ў цэнтры гораду: плошча Якуба Коласа – праспект Скарыны – вуліца Леніна – плошча Свабоды. Папярэдне вырашана, што каля Акадэміі навук, на пачатку Шляху, адбудзецца мітынг, на якім выступяць палітыкі і грамадскія дзеячы.

За сваю гісторыю «Чарнобыльскі шлях» толькі аднойчы прайшоў на пл. Бангалор – у 2000 г. Тады ў шэсці ўзяло ўдзел больш за 40 тыс. чалавек. Усе астатнія разы акцыя праводзілася на цэнтральных вуліцах і плошчах гораду. Варта прыгадаць мінулы год, калі на правядзенне акцыі заяўка ўвогуле не падавалася, а шматлюднае шэсце без перашкодаў з боку міліцыі прайшло па праспекце Скарыны з плошчы Свабоды да Акадэміі навук, дзе адбыўся мітынг.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Нечаканы трыумф

Дзейны прэзідэнт Францыі Жак Шырак і ультраправы нацыяналіст Жан-Мары Ле Пэн выйшлі ў другі тур прэзідэнцкіх выбараў у Францыі. Шырак атрымаў 19,67 працэнта галасоў, 73-гадовы Ле Пэн – 17,02 працэнта. Згодна з праведзенымі напярэдадні выбараў апытаннямі, Ле Пэн займаў трэцяе месца. Аднак некаторыя агляднікі адзначалі, што насамрэч ён мае значна больш прыхільнікаў, бо многія французы пасаромеліся прызнацца, што збіраюцца аддаць свой голас ультраправаму палітыку.



Прэм'ер-міністр Францыі Ліянэль Жаспэн, які, на думку палітолагаў, быў асноўным канкурэнтам Шырака, стаў толькі трэцім, атрымаўшы 16,07 працэнта галасоў выбарцаў. У ноч на панядзелак сацыяліст Жаспэн выступіў з заявай, у якой назваў вынікі галасавання «громам у ясным небе». На ягоную думку, яны пагражаюць дэмакратыі ў Францыі. Жаспэн сказаў таксама, што кіне палітыку пасля прэзідэнцкіх выбараў. Другі раз за ўсю пасляваенную гісторыю Францыі кандыдат ад левых сілаў перажывае паразу і выбывае з барацьбы.

*Заканчэнне на стар.3*



# Міліцыя паказала твар



Фота Ул. ШЛАПАКА

*19 красавіка а шостай вечара на плошчы Якуба Коласа збіраецца паўтары тысячы чалавек. Людзі трымаюць бел-чырвона-белыя сцягі, сцягі з сымбалямі незарэгістраванай арганізацыі «Зубр», некалькі чалавек узнялі плакат «Патрабуем падвышэння заробкаў, пенсіяў і стыпендыяў», іншыя – вялікую расцяжку, на якой напісаны назоў акцыі – «Так жыць нельга».*

Да ўдзельнікаў акцыі звяртаецца Зміцер Бандарэнка: «Мы падалі заяву ў Мінгарвыканкам. Адказу не атрымалі (на правядзенне шэсця і дэманстрацыі), было толькі ўдакладнена месца – Бангалор. Але ніхто не можа нас пазбавіць права на правядзенне мірнай дэманстрацыі, маршу пратэсту».

Да Бангалора вырашаюць ісці праспектам Францішка Скарыны, праз плошчу Перамогі, Кастрычніцкую плошчу (паўз адміністрацыю Аляксандра Лукашэнкі), далей – вуліцамі Леніна і Багдановіча.

На скрыжаванні праспекту з вуліцамі Казлова і Варвашэні дэманстрантаў падпільноўваюць некалькі шэрагаў АМОНу і салдатаў унутраных войскаў. Калона разварочваецца на плошчу Якуба Коласа. Але ўжо з тылу, са сваіх схованак у «варанках» выскачылі на асфальт міліцыянты. Маніфестанты трапляюць у пастку.

Як і ў хапун на Дзень Волі, па цэнтры праспекту падагналі аўтобусы з расчыненымі дзвярыма. Каго агрэсіўныя «касманаўты» ў шлемах вырвалі з сяброўскіх рук, запіхваюць сілай. Астатніх пагналі ў двор. Страшэнныя крыкі закладвалі вушы. Навучаныя абезгалоўліваць мірныя маршы, міліцыянты палююць на арганізатараў акцыі. З заламанымі рукамі ў «бобікі» трапляюць Зміцер Бандарэнка, Мікалай Халезін, кінарэжысёр Юрый Хашчавацкі, журналісты Зміцер Падбярэзскі, Наталля Радзіна. Дэпутата Вярхоўнага Савету Валерыя Шчукіна спачатку запіхваюць у аўтобус, але ўжо праз колькі хвілінаў выкідваюць назад, тварам у зямлю. Ён не можа падняцца. «Хуткая дапамога», што пад'ехала пазней, канстатуе сур'ёзныя пашкоджанні хрыбетніка.

*Заканчэнне на стар.3*

# От дык Земан...

## *Прыезд чэшскага прэм'ера ў Мінск стаў непрыемным сюрпрызам для ўладаў*

*З прычыны скупой інфармацыі пра візіт дэлегацыі Сацінтэрну, у складзе якой быў чэшскі прэм'ер Мілаш Земан, па Мінску хадзілі розныя чуткі.*

У тым ліку пра тое, што жаданне прэм'ера сустрэцца з Лукашэнкам магло быць звязана з абмеркаваннем магчымасці захавання на тэрыторыі Беларусі радыеактыўных адкідаў з чэшскіх АЭС. Маўляў, чарнобыльскай зямлі ўжо ўсё адно. Казалі і пра торг, які мог нібыта ўзнікнуць у Празе з Мінскам з нагоды будучых выбараў у ААН, за месца гадавога старшыні сесіі. Узамен за сустрэчу прэм'ера з Лукашэнкам Мінск быў гатовы не замінаць сваім кандыдатам чэшскаму. У гэтай версіі адна хіба. Малаверагодна, калі не сказаць – нерэальна на сёння, каб прадстаўнік Беларусі быў абраны на такую пасаду. Відаць, таму і беларускі МЗС, і іншыя структуры стараюцца не кранаць гэтай тэмы.

Беларускія ўлады вельмі разлічвалі на сустрэчу з Земанам. Па іхнім разліку такая сустрэча магла б расцэньвацца як доўгачаканы знешнепалітычны прарыў з ізаляцыі. Аднак, нягледзячы на шматразовыя спробы арганізаваць сустрэчу чэшскага прэм'ера з беларускім кіраўніком сам-насам, надзеі Лукашэнкі і ягоных памочнікаў не спраўдзіліся. Земан быў гатовы пераступіць парог прэзідэнцкай рэзідэнцыі толькі разам з аднадумцамі з Сацінтэрну, сярод якіх знаходзіцца і лідэр БСДП (Народная Грамада) Мікалай Статкевіч. Гаспадара рэзідэнцыі гэта не задавальняла. Таму дзяржаўныя СМІ візіт Земана практычна праігнаравалі. А беларуская амбасадара ў Празе, які не змог забяспечыць сустрэчу ў належным фармаце, не выключана, заменяць. Не сакрэт, што беларускія амбасадары ў еўрапейскіх сталіцах практычна вычарпалі свой запас аргументаў на карысць арыгінальнай палітыкі афіцыйнага Мінску. У іх штодзённай працы няма неабходных і прадуктыўных кантактаў. Кіраўнікі



дыпламатычных прадстаўніцтваў Беларусі, напэўна, як ніхто іншы адчуваюць на сабе ўсе радасці самаізаляцыі, у якую ўвагнаў сябе цяперашні беларускі рэжым.

*Заканчэнне на стар.3*

## ВЕСТКІ



### Сейбітаў вымушаюць галадаць

Санітарна-эпідэмічная служба Брэсцкай вобласці праверыла арганізацыю харчавання ў 201 гаспадарцы. У выніку да ліквідацыі недахопаў былі закрыты 11 пунктаў гатавання ежы. Парушаліся ў асноўным санітарныя нормы пры гатаванні ежы, яе транспарціроўцы, мыцці посуду і г. д. 34 службовыя асобы, у тым ліку адзін кіраўнік гаспадаркі, аштрафаваны на агульную суму 1 мільён 800 тысяч рублёў.

### У Беларусі – тыдзень дабра

У мінулы панядзелак у Беларусі пачалася дабрачынная акцыя «Вясновы тыдзень дабра». Яна арганізавана валанцёрскім цэнтрам «Крок насустрач» міжнароднай грамадскай дабрачыннай арганізацыі «Надзея-Экспрэс» пры падтрымцы Міністэрства адукацыі Беларусі.

Удзельнікамі акцыі сталі навучэнцы і студэнты сярэдніх школ, вучылішчаў, тэхнікумаў, вышэйшых навучальных установаў з 30 гарадоў, 6 гарадскіх пасёлкаў і раённых цэнтраў, а таксама 71 вёскі.

Усе яны маюць валанцёрскія ініцыятывы, нацэленыя на далучэнне сваіх землякоў да шматлікіх карысных спраў, у тым ліку дабрачынных мерапрыемстваў па добраўпарадкаванні і ачыстцы вуліц, паркаў, вадаёмаў

### Выпрабаванні для інвестара

Падрыхтаваны праект трохбаковага інвестыцыйнага пагаднення паміж канцэрнам «Белнафтахім», магілёўскім вытворчым аб'яднаннем «Хімвалакно» і швейцарскай кампаніяй *United Technology Corporation*. Пагадненне тычыцца Магілёўскага заводу штучнага валакна.

Першапачаткова меркавалася, што швейцарскі бок возьме завод пад канцэсійнае кіраўніцтва, аднак з-за нестыковак з дзеючым беларускім заканадаўствам ад гэтай ідэі давялося адмовіцца. Цяпер плануецца, што інвестар возьме на сябе частку даўгоў прадпрыемства, насыціць яго абаротным капіталам і будзе адказваць за рэалізацыю прадукцыі.

Згодна з канцэпцыяй развіцця Магілёўскага заводу штучнага валакна да 2010 году, для фінансавай стабілізацыі і вываду прадпрыемства са стратнага становішча патрабуюцца інвестыцыйныя сродкі ў межах 25 мільёнаў даляраў ЗША.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»

**1760**

## Агульны санскрыцкі грунт

Са словаў дырэктаркі Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтру імя Скарыны Любові Уладыкоўскай-Канаплянік, лёс гэтай установы па-ранейшаму цьмяны. Варыянты пераходу пад дах Міністэрства замежных справаў ці Акадэміі навук нічым іншым, чымсьці проста жаданнем, не сталі. Пакуль што Скарынаўскі цэнтар застаецца ў сістэме Міністэрства адукацыі, дзе даўно хочуць ад яго пазбавіцца. Вось толькі не ведаюць, як гэта ўсё абставіць.

Тым часам Скарынаўскі цэнтр з-за недастатковага фінансавання не можа сплаціць доўг за камунальныя паслугі і ўжо месяц працуе без электрычнасці. Бліжэйшым часам тут прыкладна на траціну будуць скарочаныя штаты.

Тым не менш і ў такіх умовах «скарынаўцы», як могуць, працягваюць сваю дзейнасць. Сёлета багата 10-гадовых юбілеяў усталявання дыпламатычных сувязяў Беларусі з рознымі дзяржавамі свету. 24 красавіка на Рэвалюцыйнай, 15 адбудзецца міжнародны «круглы стол» на тэму «Беларусь–Індыя: сугучнасць культур і цывілізацый» з нагоды дзесяцігоддзя ўсталявання дыпсувязяў паміж абедзвюма краінамі. Культурніцкія сувязі паміж беларусамі і індыйцамі на сёння трымаюцца хіба што на значнай прысутнасці санскрыцкага элементу ў нашых мовах ды яшчэ на тым, што на Беларускім тэлебачанні працягваюць круціць, як у старыя савецкія часы, індыйскія кінафільмы.

**Кірэй МАНУЙЛА**

## Не блытаць візу з дазволам на выезд

Ужо 90% мінчукоў маюць нацыянальны пашпарт. Толькі за першы квартал бягучага году выдадзена больш за 55 тысяч нацыянальных пашпартоў і 25 050 пашпартоў аформлены для часовага выезду за мяжу. Начальнік АПВС сталіцы Васіль Сянько прасіў нагадаць чытачам, што яго служба выдае толькі дазвол грамадзянам нашай краіны на часовы ці сталы выезд за мяжу. Паедзе чалавек за мяжу ці не, залежыць ужо ад амбасады абранай ім краіны, якая выдае ці не выдае візу. Такім чынам, не трэба блытаць дазвол на выезд з візай.

Грамадзяне нашай краіны карыстаюцца пашпартамі грамадзяніна СССР узору 1974 году, першым нацыянальным пашпартам з гербам «Пагоня» і нацыянальным пашпартам узору 1996 году з цяперашняй сімволікай. Пры наяўнасці ў пашпарце СССР запісу аб прыналежнасці да грамадзянства Беларусі, можна выязджаць у Расію, Украіну, Калінінград (толькі транзітам на чыгуначным транспарце).

Грамадзянам, якія едуць у Польшчу ці транзітам праз гэтую краіну, неабходна мець у пашпарце штамп «АВ службовая». Гэта патрабаванне польскага боку.

Правілы ўезду ў іншыя краіны мяняюцца даволі часта, і таму супрацоўнікі пашпартна-візавай службы раяць тэлефанаваць у амбасаду адпаведнай краіны перад самай паездкай і ўдакладняць іх.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

## Прастой да чэрвеня

Да канца траўня не будзе працы ў калектыву Наваполацкага заводу бялкова-вітамінных канцэнтратаў. Па-ранейшаму не завершаны пераход вытворчасці на газ. Яшчэ ў сакавіку ўрад разглядаў пытанне аб выдаткаванні на гэтыя мэты 500 мільёнаў рублёў. Аднак рэальна выдаткавана толькі 60 мільёнаў. Завод бялкова-вітамінных канцэнтратаў са снежня 1999 году перажыў ужо тры пускі і столькі ж поўных спыненняў. Галоўнай прычынай спынення заводу сталі неплацяжы прадпрыемстваў Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, што пастаўляюць на завод сыравіну за адгружаную ім прадукцыю.

**БелаПАН**

## Сусветны банк прагназуе крызіс

Эксперты Сусветнага банку не выключаюць надыходу ў Беларусі бліжэйшым часам яшчэ большага эканамічнага крызісу. Пра гэта заявіў дырэктар Аддзелу краін Беларусі і Украіны Сусветнага банку Люка Барбоне.

Ён адзначыў, што эканамічная сітуацыя ў краіне толькі пагоршылася. Прычынай гэтага стала рэзкае падвышэнне заробкаў перад прэзідэнцкімі выбарамі, бо яно ніяк не было звязана з падвышэннем вытворчасці самой працы. Гэта прывяло да ўзнікнення запазычанасці ў выплатах заробкаў і пенсій.

«Большая частка беларускай эканомікі неканкурэнтаздольная пры месячным заробку ў 100 даляраў», – кажа Люка Барбоне. Але каб выканаць планавыя ўстаноўкі па аб'ёмах вытворчасці да канца 2001 году, прадпрыемствы былі вымушаныя павялічыць аб'ёмы вытворчасці. А зараз яны не могуць рэалізаваць тую прадукцыю і яна ляжыць на складах.

«Цяпер беларускі ўрад распрацоўвае захады, якія б змаглі падвысіць рэнтабельнасць вытворчасці, але пры гэтым не закранулі заробку. Гэта можа спрацаваць, а можа і не, – лічыць Барбоне. – Але калі нічога не зменяць, то краіна страціць валютныя рэзервы, а заробак – сваю цану».

**Інга ГРЫМОНТАВА**

## Раскулачвалі камуністы, крыўдзіць і «вертыкаль»

### *Шматлікія сем'і палешукоў жадаюць гаспадарыць без калгасаў*

Пасля прымусовай калектывізацыі беларускіх «заходнікаў» у 1947 годзе ў гісторыі вялікай вёскі Альшаны Столінскага раёну быў яшчэ не менш драматычны 1985-ы. Тады ў жорны ідэалагічнай барацьбы камуністычнага рэжыму з так званымі непрацоўнымі прыбыткамі патрапілі цяплічнікі. Усіх, хто меў больш як 0,01 гектара агароду пад плёнкай, пагалоўна запісвалі ў шэрагі адчужэнцаў ад калгаснага ладу. У Альшанах 90% прыватных цяпліц былі разбураныя. Больш як на 200 падворках каркасы з драўляных жэрдак расцягвалі металічным тросам, крук якога да трактара чаплялі агрэсіўныя міліцыянты. Цывільных варвараў гаспадары адпужвалі злымі сабакамі ды вострымі сякерамі. Каб не сесці ў турму за непаслушэнства, мусіў з'ехаць у той час з вёскі і Іван Грыб. На яго двор навялі паклёп крымінальнага характару за тое, што некалгасная сям'я вырошчвала на продаж амаль 5 тонаў ранніх агуркоў, 90 тысячаў цюльпанаў і 2,5 тысячы руж да 8 Сакавіка.

Смелы Іван Грыб – зараз адзін з самых прадпрымальных фермераў Беларусі. У яго сям'і чатыры дарослыя сыны, а ў сям'і роднага брата Міхаіла – яшчэ шэсць хлопцаў. Гэтыя 12 працаўнікоў адной фермерскай гаспадаркі яшчэ з малаком маці былі далучаныя да веры хрысціянаў-евангелістаў. Па запаветах рэлігіі і норавах сем'і баптыстаў жадныя да працы і нясхільныя да граху. Ніводнаму калгасу ніколі не купіць нават за грошы таго, што ў фермерскай гаспадарцы склалася як прыродны капітал кроўнай радні: не здраджваць, не красці, не дазваляць іншым марнаваць гаспадарку. У альшанскім калгасе «40 год Кастрычніку» заробак не заплацілі яшчэ за люты, а сваіх сезонных працаўнікоў фермеры разлічваюць штодня па ведамасці і па расцэнках у эквіваленце ад 8 да 12 даляраў. Механізатары атрымліваюць па 150 даляраў. Каб плаціць наёмным людзям больш, альшанскім фермерам не хапае таварнага і грашовага абароту на зямлі. Грыбы прасілі і просяць у «вертыкалі» 400 гектараў, а ім перадалі з калгасу ўсяго 50 і толькі на 25 гадоў. Даводзіцца забываць пакуль пра нармальны севазварот і планы арганізацыі малочнатаварнай вытворчасці. З-за абмежаваных ворыўных рэсурсаў стаўка зроблена на вырошчванне агуркоў, морквы і капусты. Белакачаннай, дарэчы, у 2001 годзе рэалізавалі ажно 1 200 тон.

Вясною ўся ралля на Століншчыне пылілася ад недахопу вільгаці, і толькі над агародамі фермераў у Альшанах рассыпаўся штучны дождж. Гэта вынік інжынернага праекту па абвадненні засушлівых участкаў. Грыбы карыстаюцца зямлёй з-пад суцэльнай меліярацыі, праведзенай у 70-я. За тры дзесяцігоддзі калгас вычарпаў яе прыродную ўрадлівасць. Фермерам даводзіцца выпраўляць чужыя памылкі.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

### Каментар НАШАЙ СВАБОДЫ

У вёсцы Альшаны зараз 7 500 чалавек мясцовага насельніцтва. 447 сем'яў – шматдзетныя, маюць па 5 і больш дзяцей. Катэджы, у якіх яны жывуць, будаваліся не з калгасных заробкаў. Нефармальная ў Беларусі рэспубліка цяплічнікаў выпрацавала праз пакаленні адмысловую тэхналогію, не горшую, чым галандская. Вялікім сем'ям палешукоў патрэбныя немалыя грошы, а каб іх мець, працуюць да знямогі. Адлюстраванне заможнасці альшанцаў – набытыя імі ў асабістае карыстанне 200 легкавых і 80 грузавых аўтамабіляў, дзесяткі трактароў.

Першым з альшанцаў адасобіўся ў фермеры праз суд у 1991 годзе былы галоўны аграном тамтэйшага калгасу, кандыдат сельскагаспадарчых навук Аляксандр Патоцкі. Аднак за 11 мінулых гадоў толькі 6 яго аднавяскоўцаў таксама змаглі ажыццявіць дэкляраванае ў заканадаўстве права на арэнду зямлі. Больш як 30 заяваў альшанцаў на фермерства і зараз тармозяцца ўладамі.

# Яшчэ адно злачынства ў Курапатах



У Курапатах, пасля пажару ноччу 19 красавіка, засталіся рэшткі вайсковага намёту, «буржуйка» і металічныя прадметы. Спалены лагер абаронцаў, праз які цягам больш як 5 месяцаў прайшлі амаль 200 чалавек.

Валанцёры ўпэўнены, што гэта быў наўмысны падпал. Адзін з актывістаў, Алесь Поклад, атрымаў моцныя апёкі і трапіў у аддзяленне рэанімацыі менскага шпіталю хуткай дапамогі. Ірына Вяткіна – адна з трох валанцёраў, якія дзяжурылі мінулай ноччу ў Курапатах, расказала падрабязнасці здарэння: «Мы прачнуліся ад дыму ў намёце. З-за гэтага я і Васіль Парфянкоў не ўбачылі, што тут яшчэ спіць Алесь Поклад. Было цёмна і задымлена, і навобмацак мы яго не знайшлі. Мы падумалі, што ён ужо выбег, і выскачылі самі. Агонь праз адхінуты полаг перакінуўся ўнутр намёту. Потым мы пачулі, як закрычаў Алесь. Мы адчынілі акно і ён вылез цераз яго, паколькі ўваход быў ахоплены агнём. Мы тут жа адбеглі, бо ў намёце быў балон ад газавай пліты і ён мог выбухнуць».

Паводле словаў Вяткінай, Алесь Поклад быў прытомны, але ў яго моцна абгарэлі ногі, правая рука, шыя. Валанцёры дабеглі да тэлефонаў і выклікалі міліцыю і «хуткую дапамогу». Аднак, казалі яны, зрабіць гэта ўдалося з цяжкасцю. «Хуткая» ехала да іх больш за гадзіну.

Расследаванне, згодна з тэрытарыяльнай прыналежнасцю Курапатаў, вядуць супрацоўнікі Мінскага раённага аддзелу ўнутраных справаў.

Пажар у Курапатах, кім бы ён ні быў учынены – гэта злачынства.

### ЗША заклікаюць Беларусь спыніць гвалт у Курапатах

У прэсавым рэлізе ад 20 красавіка амбасада ЗША ў Беларусі заклікае беларускія ўлады «правесці вартае даверу расследаванне гэтага і іншых выпадкаў гвалту і зрабіць захады, каб прыцягнуць нападнікаў да адказнасці і абараніць мірных удзельнікаў пратэсту».

«Злучаныя Штаты моцна занепакоеныя нядаўнім гвалтам ва ўрочышчы Курапаты. Учора невядомыя падпалілі адзін з намётаў, у выніку моцныя апёкі атрымаў чалавек, які ў ёй спаў, ён цяпер знаходзіцца ў шпіталі ў крытычным стане», – адзначаецца ў прэсавым рэлізе амбасады ЗША ў Беларусі.

**За падзеямі вакол Курапатаў стаіць добра арганізаваная сіла, лічыць адвакат і праваабаронца В.СТРАМКОЎСКАЯ:**

Адвакат, кіраўнік Цэнтру па правах чалавека Вера Страмкоўская лічыць, што падпал намёту з валанцёрамі ў Курапатах – лагічнае завяршэнне цэлага ланцугу падзей. Яна нагадвае, што яшчэ 16 красавіка пяцёра ўдзельнікаў кругласутачнага дзяжурства ў Курапатах накіравалі ў пракуратуру Мінскага раёну і Камітэт па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю заявы. У іх змяшчалася просьба ўзбудзіць крымінальную справу ў сувязі з хуліганскімі нападамі на валанцёраў і пагрозамі расправы. «У апошнія тры месяцы падзеі вакол валанцёраў развіваліся такім чынам, што павінны былі прывесці да трагедыі», – сказала В.Страмкоўская. Паводле яе словаў, шантаж, хуліганскія напады, неабгрунтаваныя затрыманні валанцёраў і падпал іх намёту звязаны паміж сабой і добра арганізаваны нейкай сілай, што за ўсім гэтым стаіць. Грамадская арганізацыя «Цэнтр па правах чалавека», старшынёй якога з'яўляецца В.Страмкоўская, прыняў заяву, у якой выказаў занепакоенасць з нагоды апошніх падзеяў у Курапатах.

**Лідэр Маладога Фронту Павел СЕВЯРЫНЕЦ за працяг вахты памяці:**

На думку П.Севярынца, пажар, які адбыўся ў ноч на 19 красавіка і падчас якога сур'ёзна пацярпеў адзін з валанцёраў, толькі дадасць рашучасці ўдзельнікам вахты.

# Міліцыя паказала твар

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Разгон акцыі вызначаўся неапраўданай жорсткасцю міліцыі да моладзі і падлеткаў. Тых, хто сеў на асфальт і счапіўся рукамі, амонаўцы білі дубінкамі, хапалі за валасы і цягнулі па асфальце да апёкаў на целе. «Зачыстка» суправаджалася збіццём у аўтобусе. Падчас хапуна ў цэнтральнай частцы гораду ланцуг міліцыянтаў блакаваў усе выхады з яго да кварталаў Савецкага раёну. Многія жыхары гэтай вуліцы мусілі паказваць свае пашпарты. Усяго было затрымана 102 чалавекі.

Яшчэ ў дзень разгону маніфестацыі праваабаронцам удалося даведацца прозвішчы 74 затрыманых і наладзіць сувязь з некаторымі з іх праз мабільны тэлефон.

Вечарам 19 красавіка было распаўсюджана паведамленне прэс-сакратара Міністэрства ўнутраных спраў Дзмітрыя Партона. У ім, у прыватнасці, гаворыцца: «Сёння ў Мінску па ініцыятыве прадстаўнікоў апазіцыйных грамадскіх сіл прайшоў так званы марш пратэсту, у якім узялі ўдзел каля 400 чалавек. (...) супрацоўнікамі органаў унутраных спраў гэтыя супрацьпраўныя дзеянні былі спыненыя. Затрымана 85 актыўных удзельнікаў хуліганскіх дзеянняў, большасць з якіх непаўналетнія. Пацярпелых няма».




21 красавіка Аб'яднаная грамадзянская партыя распаўсюдзіла заяву, у якой гаворыцца, што «ужо каторы раз беларускія ўлады прадэманстравалі сваю непавагу да канстытуцыйнага права грамадзян на правядзенне шэсцяў і мітынгаў». Удзельнікі акцыі «Так жыць нельга!», у асноўным моладзь, былі блакаваны ў цэнтры сталіцы міліцыяй і спецпадраздзяленнямі на чале з сумна вядомым Паўлічэнкам, з якім, адзначаецца ў заяве, напярэдадні акцыі сустракаўся Аляксандр Лукашэнка. Распачалася адкрытая зачыстка, што суправаджалася збіваннем людзей і масавымі затрыманнямі. «Так рэжым адрэагаваў на патрабаванне выканаць перадвыбарныя абяцанні кандыдата ў прэзідэнты Лукашэнкі і павысіць узровень жыцця грамадзян Беларусі», – гаворыцца ў заяве АГП.

Міжнародная ліга правоў чалавека і яе выканаўчы дырэктар Кэці Фітцпатрык рэзка асудзілі збіванні і арышты ўдзельнікаў мірнай акцыі «Так жыць нельга!».

У заяве, у прыватнасці, гаворыцца: «Ліга асуджае разгон мірнай дэманстрацыі, адмаўленне беларускіх уладаў дазволіць правядзенне акцый у цэнтры гораду, а таксама выкарыстанне сіл АМАПу для здушэння мірнай акцыі. Такі жорсткі адказ з'явіўся вынікам трывалага парушэння ўладамі правоў грамадзян на мірны пратэст, іх нежадання прадаставіць месца для правядзення грамадзянскімі групамі акцый пратэсту, рэпрэсіўных дзеянняў, якія ўсё больш узмацняюцца, і пагаршэння эканамічнай сітуацыі».

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ, БелаПАН**


Фота Ул. ШЛАПАКА











Фота Ул. ШЛАПАКА

# От дык Земан...

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Не сакрэт і тое, што прыезд чэшскага прэм'ера ў Мінск стаў непрыемным сюрпрызам для беларускіх уладаў.

А чэшскаму прэм'еру, можна сказаць, пашанцавала. Па некаторых звестках, ягоныя палітычныя апаненты дома толькі і чакалі, каб адзін з патэнцыйных кандыдатаў на пасаду прэзідэнта Чэшскай Рэспублікі спатыкнуўся ў Мінску. Малаверагодна, што Земану ўдалося б «адмыцца» ў выпадку ягонай сустрэчы з Лукашэнкам, якога працягваюць ігнараваць у еўрапейскіх краінах.

Пасля афіцыйнага візіту ў Маскву наведанне чэшскім прэм'ерам Мінску выключна ў якасці дзеяча Сацінтэрну, безумоўна, успрымалася як апляуха беларускаму рэжыму. Гэтае адчуванне ўзмацнілася, калі Земан і яго паплечнікі правялі ў беларускай сталіцы шэраг сустрэчаў з прадстаўнікамі апазіцыйных палітычных партыяў, праваабаронцамі і ахвярамі рэпрэсіяў. Неабходна адзначыць двухбаковую сустрэчу Земана з былым амбасадарам Беларусі ў Чэшскай Рэспубліцы і Латвіі Міхаілам Марынічам, які пайшоў у адстаўку з прычыны нязгоды з палітыкай Лукашэнкі. Кажуць, што гэтая сустрэча была вельмі плённаю.

Асаблівае ўражанне на гасцей зрабілі словы Ірыны Красоўскай, жонкі аднаго са зніклых дзеячаў. У прыватнасці, яна адзначыла, што Анатоль Красоўскі, Віктар Ганчар, Юрый Захаранка і Дзмітрый Завадскі сталі ахвярамі тэрарыстаў. А барацьба з імі, як вядома, пасля 11 верасня 2001 году стала агульнай справай усяго свету. Так што цалкам можна было прадказаць падтрымку з боку Земана і іншых дзеячаў Сацінтэрну ідэі стварэння міжнароднай камісіі па расследаванні абставінаў і прычынаў зніклення вядомых людзей у Беларусі. Адчувалася, што Земан вельмі ўважліва паставіўся да ліста ад жонак ахвяраў рэпрэсіяў. Дарэчы, у кулуарах гэтых сустрэчаў абмяркоўвалася і тэма Міжнароднага трыбуналу ў Гаазе. На сесіі Сацінтэрну, якая мае адбыцца ў Касабланцы, Земан паабяцаў, што ў парадак дня будзе ўключана «беларускае пытанне». Даведаўшыся пра ўсё гэта, адны чыноўнікі бедавалі, іншыя, наадварот, адзначалі ягоную палітыкарэктнасць і разумныя развагі наконт сітуацыі ў Беларусі. Папулярнымі сталі словы Земана, што сучасная Беларусь нагадала яму палітычны музей. А адзін з ягоных экспанатаў – падвойны бюджэт, непадкантрольны парламенту.

На выніковай прэс-канферэнцыі дэлегаты Сацінтэрну выказалі спадзеў на наладжванне дыялогу паміж дэмакратычнай апазіцыяй і ўладамі Беларусі. На іх думку, іншага шляху проста няма. Трэба адзначыць, што не яны першыя выказваюць такое меркаванне. Мы памятаем, як з юнацкім энтузіязмам спрабавалі былі наладзіць дыялог цяперашні старшыня Парламенцкай асамблеі АБСЕ Адрыян Севярын і былы кіраўнік Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі амбасадар Ханс-Георг Вік. Пра плён сваёй працы з беларускім рэжымам яны ўжо казалі. Энтузіязму пры гэтым неназіралася. Таксама вядома, як аціанў Лукашэнка са сваімі памочнікамі высілкі вышэйназваных асобаў у так званых «дэмакратычных калідорах». Амбасадар Вік, напрыклад, стаў у Беларусі персонай нон грата. А ўва ўтварэннях кшталту «дэмакратычных калідораў», у якіх прадугледжваецца супрацоўніцтва з рэжымам, па-ранейшаму відаць святло ў канцы тунелю. Вось толькі святло гэтае – ад сустрэчнага цягніка. Падобна, зноў заклікаючы да дыялогу апазіцыю і ўлады, на гэты раз ужо дзеячы Сацінтэрну вырашылі паспытаць горкага піва рэальнасці. Бо сутнасць яе ў няздольнасці цяперашняга беларускага рэжыму да рэфармавання і дэмакратызацыі.

**Раман ЯКАЎЛЕЎСКІ**

СЕНСАЦЫЯ

## Нечаканы трыумф

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Упершыню гэта адбылося ў 1969 годзе, калі ў першым туры перамаглі два памяркоўныя кандыдаты Жорж Пампіду і Ален Паэр.

Лідэр трацкістаў Арлет Лагійе заняла пятае месца з 5,78 працэнта галасоў. «Зялёныя» на чале з Наэлем Мамерам атрымалі 5,27 працэнта, а камуніст Рабэр Ю заваяваў 11 месца пры падтрымцы 3,41 працэнта электарату. Агулам у першым туры ўдзельнічалі 16 кандыдатаў на пост прэзідэнта.

5 траўня адбудзецца другі тур выбараў прэзідэнта Францыі, на якіх, хутчэй за ўсё, пераможа Шырак. Апытанні паказваюць, што Шырак можа атрымаць у другім туры да 80% галасоў. Гэта вынікі апытання грамадскай думкі, праведзенага па замове агульнанацыянальнага тэлеканалу *TF-1*. На думку сацыёлагаў, лідэр крайняга правага Нацыянальнага фронту Жан-Мары Ле Пэн у другім туры атрымае не больш за 22% галасоў. Каб не дапусціць прыходу да ўлады ў Францыі крайніх правых сілаў, генеральны сакратар Сацпартыі Франсуа Аланд заклікаў прыхільнікаў сацыялістаў галасаваць у другім туры за Шырака. З гэткім жа заклікам да сваіх выбарцаў звярнуўся і старшыня Французскай кампартыі Рабэр Ю.

У 73-гадовага Ле Пэна няшмат шанцаў стаць прэзідэнтам Францыі, аднак вынікі галасавання ў першым туры – гэта сігнал таго, што Нацыянальны фронт можа заваяваць большую колькасць месцаў у парламенцкіх выбарах у чэрвені. Сам Ле Пэн заявіў, што ягоны поспех – гэта трыумф простых людзей Францыі.

Міністр фінансаў Францыі Ларан Фабіюс назваў перамогу Ле Пэна «катаклізмам жахлівага маштабу».

Сам Ле Пэн заявіў, што канчатковы вынік будзе залежаць ад гатоўнасці французаў пазбавіцца заргінавання, што ахапіла Францыю. У сваёй цяперашняй перадвыбарнай кампаніі лідэр Нацыянальнага фронту асноўны націск зрабіў на праблеме падтрымання законнасці і парадку ў краіне, сцішыўшы свае традыцыйныя выпады супраць імігрантаў.

У ноч на панядзелак у Парыжы, Ліёне, Грэноблі, Марселі і іншых буйных гарадах Францыі адбыліся масавыя дэманстрацыі пратэсту супраць ультраправых сілаў і лідэра Нацыянальнага фронту Жан-Мары Ле Пэна. Маніфестанты, у асноўным моладзь, пратэставалі супраць выхаду Ле Пэна ў другі тур прэзідэнцкіх выбараў. У Парыжы ў падобнай акцыі ўзялі ўдзел да 10 тысячаў чалавек. Дэманстранты крычалі: «Ле Пэн – фашыст». Сталічная паліцыя мусіла ўжыць слезацечны газ для разгону дэманстрантаў.

**NTV.ru**

# Інвестары, якіх мы страцілі

*Інтэрв'ю экс-старшыні Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь Міхаіла Чыгіра з карэспандэнтам газеты НАША СВАБОДА Сяргеем Нікалюком.*



***– Міхаіл Мікалаевіч, тэма прыватызацыі прадпрыемстваў нафтахіміі вось ужо каторы месяц не сыходзіць са старонак газет. Скажыце, 12–15 патрабаванняў да інвестараў – гэта сур'ёзна? Няўжо расійскія бізнесмены пагодзяцца на такія ўмовы?***

– Вы ведаеце, я мяркую, на такіх умовах ніхто не захоча прыватызаваць. Што значыць захаваць колькасць работнікаў? Гэта забарона на мадэрнізацыю. Гэта забарона на зніжэнне сабекошту прадукцыі.

Гаворкі аб прыватызацыі пачаліся не сёння. Яны актыўна вядуцца з 1994 году. А вынік? Мала таго, я хачу сказаць: многія людзі, якія сёння маюць уласнасць у Беларусі, шмат хто з тых, хто актыўна працуе ў бізнесе, сёння маюць жаданне расстацца з уласнасцю.

***– Досыць неардынарнае жаданне для дзелавых людзей.***

– Тут розныя прычыны. Папершае, можна апынуцца за кратамі за любую драбніцу, любую памылку. Не, канечне, за сваю. Кіраўнік можа пазбавіцца свабоды і за памылку галоўнага бухгалтара. Вы ведаеце, напрыклад, якія драконаўскія захады прадугледжаны ў нас за пропуск нумару ліцэнзіі ў накладной? 10 працэнтаў ад кошту тавару! Ці варта пасля гэтага дзівіцца імкненню шматкаго з бізнесменаў прадаць за нармальную цану сваю ўласнасць?

Па-другое, сёння настолькі складаныя ўмовы гаспадарання... Зарабіць у Беларусі прыбытак і пры гэтым не парушаць ніводнага з наяўных патрабаванняў практычна немагчыма.

Па-трэцяе – вельмі вялікі падатковы цяжар, плюс высокія цэны на энергарэсурсы для прадпрыемстваў.

***– Тым не менш прыватызацыя – галоўная тэма выступаў прэзідэнта.***

– Я ведаю Лукашэнку вельмі добра. Ён не прымае прыватнай уласнасці. Але яму няма куды дзецца. Сітуацыя прымушае. Ён не хоча зразумець, што датуль, пакуль зямля будзе дзяржаўная, пакуль будуць калгасы і саўгасы, краіны не накорміць. Нягледзячы на планёркі, нягледзячы на фінансавую падтрымку.

Сітуацыя падштурхоўвае Лукашэнку. У бюджэце вельмі вялікія дзюры. На жаль, заходні інвестар да нас зусім не ідзе. У ЗША ёсць непасрэдныя рэкамендацыі ўраду не інвеставаць у Беларусь. Не, яны не забараняюць, проста не рэкамендуюць. Але які сур'ёзны бізнес паспрабуе пасля гэтага рызыкаваць? Тым больш, узгадаўшы досвед «Форду».

***– Аднак расійскія алігархі з экранаў тэлевізараў упэўніваюць нас у сваіх жаданнях...***

– Расійскія монстры, тыя, што моцна стаяць на нагах, я мяркую, прыйдуць. Беларусь для іх – сапраўды смачны кавалак. Яны выдатна ведаюць: узровень дысцыпліны, узровень інжынерна-тэхнічнай падрыхтоўкі спецыялістаў на нашых прадпрыемствах вышэйшы, чым у Расіі, таму тут яны разлічваюць на вышэйшы эканамічны эфект.

Яны разумеюць – Лукашэнка можа кінуць. Але так можна асобную «Балтыку» кінуць. Калі прыйдзе 5–6 такіх прадпрыемстваў, як «Балтыка», у Лукашэнкі гэты нумар больш не пройдзе. Аб'яднаўшыся, буйныя расійскія прадпрыемствы могуць лёгка лабіраваць свае інтарэсы цераз Пуціна, цераз Думу. Буйны капітал мае ўласцівасць прабіваць сабе дарогу, нягледзячы на наймацнейшы супраціў з чыйго-небудзь боку.

Глядзіце: былі вельмі рэзкія заявы па «Балтыцы», але цяпер беларускі бок у нейкай меры адступіў. Заходу цяжэй аказваць на Лукашэнку ціск, а Расія, кантралюючы застаўкі, кантралюючы рубільнікі, паўплываць на сітуацыю здатная вельмі хутка. Расіі дастаткова толькі падключыць свае СМІ, і ў Лукашэнкі пачнуцца праблемы.

***– 10 год таму ў грамадстве была эйфарыя. Здавалася, вось-вось Мінск пераўтворыцца ў Нью-Васюкі. А якія эканамічныя дaляглады раскрываліся ў той час з кабінету старшыні Савету міністраў?***

– Надзеі, безумоўна, былі. Прывяду адзін прыклад. Паколькі сам я з банкаўскай сістэмы, то не асаблівы прыхільнік афшорных зонаў, але я прапанаваў Лукашэнку адчыніць афшорны банк у Брэсце. Калі такі від фінансавых паслугаў існуе, калі ў Расіі вялікая колькасць бізнесменаў карыстаюцца імі, дык давайце запросім заходняга менеджэра, арганізуем у Брэсце такі банк і пакажам, што ён сапраўды будзе працаваць, як працуюць іншыя афшорныя банкі. Беларусь магла б мець мільярды.




Акрамя таго, мы знаходзімся на скрыжаванні. Мы маглі б звязаць Захад і Расію. Гэта дазволіла б нам стварыць працоўныя месцы для моладзі. Для тых, хто ведае англійскую мову, словам, для тых, хто будаваў бы новую Беларусь.

Лукашэнка адмовіўся ад афшорнага банку. Ён стаў душыць бізнесменаў, якія робяць грошы на еўрапейскім скрыжаванні. Узгадайце Пупейку. Ён купляў у Францыі «*Жигули*» і прадаваў іх у Расію і Казахстан. У 1995 годзе Пупейка заплаціў у бюджэт 10 млн. даляраў.

Такія людзей трэба падтрымліваць, краіна ад гэтага толькі выйграе. А што адбываецца? Краіну за год пакідаюць да 20 тысячаў чалавек. З'язджаюць самыя здольныя, самыя таленавітыя, самыя патрэбныя.

Мы маглі б зарабляць вельмі вялікія грошы. Трэба было рыхтаваць людзей, адчыняць школы, пасылаць вучыцца за мяжу. Але сёння 90% студэнтаў БДУ мараць з'ехаць з Беларусі.

***– Міхаіл Мікалаевіч, вы ўжо згадвалі фірму «Форд», але ці былі іншыя буйныя інвестары, якіх мы страцілі?***

– Каб пералічыць страчаных буйных інвестараў за час маёй працы ўва ўрадзе, не хопіць пальцаў на руках. За тым жа «Фордам» стаяў цэлы шэраг іншых буйных кампаніяў. Ішлі перамовы пра сур'ёзныя інвестыцыі на шарыка-падшыпнікавым заводзе. «Форд» быў зацікаўлены ў павелічэнні вытворчасці камплектуючых на тэрыторыі Беларусі.

Вялікая страта для нас, што сюды не прыйшоў «Філіпс». Вяліся актыўныя перамовы. Я сам браў у іх удзел. Яны хацелі працаваць на нашым «Гарызонце», на гомельскім заводзе па вытворчасці тэлевізійных трубак. Пра сур'ёзнасць іхніх намераў кажа хоць бы тое, што фірма падаравала Мінску на 200 тыс. даляраў ліхтароў. Яны сёння асвятляюць цэнтральную частку праспекту Скарыны.

Я паведаміў Лукашэнку пра перамовы. Ён заявіў, што «Філіпс» тут працаваць не будзе, бо ў Беларусі будзе працаваць «Шарп», і гэтым пытаннем займаецца Савет бяспекі. Я зразумеў: калі пытанне даручана Савету бяспекі, і з «Шарпам» нічога не атрымаецца.

Крыўдна, бо «Філіпс» планаваў разгарнуць вытворчасць не менш як 2 мільёнаў тэлевізараў у год. З ягонага пункту гледжання пры меншых аб'ёмах вытворчасць проста нерэнтабельная.

Вельмі шмат прапановаў паступала ад кампаніяў вытворцаў медпрэпаратаў. У тыя гады Беларусь больш прывабна выглядала для заходніх інвестараў, чым Расія. У нас быў ніжэйшы ўзровень злачыннасці і карупцыі. Пра ўзровень дысцыпліны і падрыхтоўкі кадраў я ўжо казаў. Але з гэтага нічога не атрымалася. Хто ж будзе працаваць па прынцыпе: ты ўкладзі грошы, а я яшчэ падумаю, ці даць табе гады праз два-тры кантрольны пакет акцыяў? Нідзе ў свеце такога няма.

Сёння сітуацыя рэзка змянілася. Цяпер беларускія дзяржаўныя прадпрыемствы на знешнім рынку могуць супрацоўнічаць адно з прыватнымі прадпрыемствамі. Усе нашы дырэктары атрымліваюць невялікую плату. Іх лёгка купіць канкурэнтам. Мы на выспе, вось і вынікі.

***– Але калі верыць афіцыйнай статыстыцы, мы першыя ў СНД дасягнулі ўзроўню вытворчасці 1990 году.***

– Не трэба так нахабна хлусіць. Мы рабілі больш за 100 тысячаў трактараў, зараз – 25, ну хай 30 тысячаў, тады 40 тысячаў аўтамабіляў – зараз менш за 10. Чым мы закрываем гэтыя страты? Усё гэта байкі. Таму ў нас і заробкі такія, і выплаты ў бюджэт.

***– У папярэднім нумары НАШАЙ СВАБОДЫ была апублікаваная копія вэксалю, які вы перадалі журналістам 16 красавіка. Вэксаль амаль на мільярд даляраў. Няўжо міністр фінансаў мог падпісаць такое абавязацельства, не паведаміўшы вам?***

– Я лічыў, што калі я ўзначальваў урад, то без майго ведама нічога не адбывалася. Гэты вэксаль быў для мяне, як снег на галаву. Я не верыў сваім вачам. Я ведаю подпіс Дзіка. Стаіць пячатка. Я не дапускаю думкі, што міністр фінансаў зрабіў гэта без нічыйго ведама, напэўна, ён атрымаў аднекуль указанне, але мне пра гэта не сказаў.

Быў перыяд, калі ў нас вэксалі не падпісвалі толькі лянівыя. Калісьці Кебіч Вячаслаў Францавіч выдаў абавязацельстваў на 1,2 мільярда даляраў.

Я хачу сказаць пэўна: эканамічных умоваў для выдачы такога вэксалю ў 1996 годзе, натуральна, не было. Як і дзеля чаго ён з'явіўся – я не разумею. Я ведаю, што многія людзі спрабуюць здабыць падобныя абавязацельствы і яны нават маюць абарачэнне за мяжой. Такія дакументы могуць быць закладзеныя для атрымання крэдытаў у заходніх банках. Але гэты вэксаль быў запоўнены з некаторым парушэннем заканадаўства. Калі справа дойдзе да суду, ён можа быць апратэставаны.

***– А ці даўно стала вядома пра гэты вэксаль?***

– Зусім нядаўна. У гэты панядзелак, калі я быў у Маскве. Ён там недзе захоўваецца. Я не ведаю. Мне паказалі копію.

***– Міхаіл Мікалаевіч, дазвольце падзякаваць Вам ад імя чытачоў газеты за інтэрв'ю і выказаць надзею, што гэтая сустрэча далёка не апошняя.***

**ТРАГЕДЫЯ**

## Для чарнобыльцаў вайна працягваецца

За 16 гадоў паслячарнобыльскай эры першасная колькасць інвалідаў-чарнобыльцаў у краіне павялічылася на 50%. Аднак «афіцыйная статыстыка інваліднасці значна заніжаная», упэўнены старшыня аб'яднання інвалідаў Чарнобылю «Чарнобыльскае ліхалецце» доктар медыцынскіх навук Валерый Дзядзічкін. Пра становішча, у якім знаходзіцца армія інвалідаў-чарнобыльцаў, Валерый Дзядзічкін распавёў на прэс-канферэнцыі 11 красавіка.

«Інвалідаў выклікаюць на камісіі і здымаюць ці памяншаюць групы інваліднасці: у каго трэцяя – пазбаўляюць, у каго другая – перакваліфікуюць у трэцюю. І гэта масавая з'ява», – сказаў Валерый Дзядзічкін.

Старшыня грамадскага аб'яднання «Чарнобыльскае ліхалецце» параўнаў катастрофу на ЧАЭС з вайной. «Чарнобыльская трагедыя – гэта вайна. Пасля вайны мёртвых хаваюць, жывыя – уладкоўваюць сваё жыццё, а пра інвалідаў клапоціцца дзяржава. За апошнія гады інваліды, не толькі ліквідатары, але і інваліды-перасяленцы, пазбаўленыя галоўнага – лекавага забеспячэння. На паперы нібыта ўсё добра, закон ніхто не адмяняў, інваліды забяспечваюцца бясплатнымі лекамі, але, насамрэч, інвалідам выдаюцца толькі недарагія лекі не больш, чым па трох рэцэптах. Прывяду прыклад. Інвалід-ліквідатар ляжыць з тэмпературай 39,5. Выкліканы ўчастковы доктар выпісвае тры бясплатныя рэцэпты на цэлых трыста рублёў!». У гэтых словах – увесь адчай інвалідаў-чарнобыльцаў. «Лечаць нас у асноўным псіхатэрапеўтычна, і галоўны псіхатэрапеўт – наш прэзідэнт», – сказаў медык.

«Чарнобыльцы-інваліды – не ўтрыманцы, яны разумеюць эканамічныя складанасці ў краіне. Але ж гэтыя людзі заслужылі, каб іх лячылі», – заявіў Уладзімір Дзядзічкін. Доктар медыцынскіх навук упэўнены, што дапамагчы інвалідам можна за кошт «пераразмеркавання сродкаў, якія ёсць у рэспубліцы». «Таго кіраўніка, які жыве старым бісмаркаўскім выказваннем «Хто не корміць сваю армію – корміць чужую», трэба адправіць у мінулае стагоддзе. А колькі размоваў было пра скарачэнне высокааплатных чыноўнікаў. У гэтым мы бачым рэзервы», – сказаў У.Дзядзічкін.

Медык прывёў жудасныя лічбы: у 1999 годзе ў дзяцей ад 0 да 14 год было 107 новаўтварэнняў на 100 тысячаў чалавек, а ў 2000 годзе – ужо 129. Хваробы крыві ў дзяцей: 884 у 1999 годзе, 924 – у 2000 годзе.

Уладзімір Дзядзічкін са спасылкай на ўласныя даследаванні заявіў, што «малыя дозы радыяцыі прыводзяць да дрэнных наступстваў». Даследаванне праводзілася ў два этапы: да аварыі – у 1985 годзе і пасля аварыі – у 1986 годзе. «Я магу аднназначна сказаць, што ў параўнанні з дачарнобыльскім перыядам радыяцыя ўздзейнічае ў першую чаргу на вышэйшыя псіхічныя функцыі чалавека: памяць, увагу, мысленне. Гэта значыць, што мы гадуем дэбілаў. І самае галоўнае: адбываецца дэпапуляцыя насельніцтва. У 1991 годзе на тысячу чалавек паміраў адзін, у 1999 годзе на тысячу памірае ўжо 5 чалавек», – заявіў У.Дзядзічкін.

У.Дзядзічкін сцвярджае, што інваліды-чарнобыльцы не хочуць займацца палітыкай. Але мусяць. «У Беларусі ёсць дзве бяды, амаль раўнацэнныя: Чарнобыльская трагедыя і праўленне Лукашэнкі».

Пра былога прарэктара Гомельскага медінстытуту Юрыя Бандажэўскага, асуджанага за хабарніцтва да 8 гадоў зняволення, В.Дзядзічкін сказаў наступнае: «Я добра ведаю Бандажэўскага; у сваіх працах ён паказаў, што нават невялікае назапашванне ў цягліцах радыенуклідаў, у прыватнасці, цэзію, вядзе да таго, што павялічваецца рызыка захварэць на мікраінфаркт. Па-другое, мяняецца імунная сістэма. Сапраўды, працы Бандажэўскага не супадалі з канцэпцыяй, прынятай урадам. Як прарэктар Бандажэўскі не больш за іншых парушаў правілы прыёму студэнтаў», – заявіў У.Дзядзічкін.

**Рыгор БУЯН**

# Збіраемся ў адпачынак

*Ну вось і настала сапраўдная вясна. Прыгрэла сонейка, людзі пачалі паціху распранацца. Самы час задумацца пра адпачынак. Тыя, хто маюць грошы, разважаюць, як іх патраціць, каб атрымаць найбольш задавальнення. Іншыя – як атрымаць задавальненне, патрацiўшы як мага менш грошай. Які ж адпачынак самы лепшы? Мора і сонца, экскурсійны тур па Еўропе ці любімая дача? Усім, хто збіраецца адпачываць летам, не зашкодзяць парады спецыялістаў.*

**Эдуард Сцяпанавіч КАШЫЦКІ, галоўны спецыяліст-курартолаг Міністэрства аховы здароўя Беларусі, акадэмік, кандыдат медыцынскіх навук**: «Кожны беларус, які збіраецца адпачыць улетку, павінен падрыхтавацца і спланаваць адпачынак у залежнасці ад стану ягонага здароўя, фінансавых магчымасцей, а таксама неабходнасці змяніць абстаноўку. Бо адпачынак – гэта ў першую чаргу змена асяроддзя, у якім мы знаходзімся. Калі чалавек падчас адпачынку застанецца ў межах гораду ці іншага паселішча, будзе адгароджваца ад прыроды вокнамі і бетоннымі сценамі, то гэта не адпачынак.

Я, як спецыяліст і жыхар Беларусі, лічу, што толькі адпачынак ва ўмовах, якія адрозніваюцца ад штодзённага жыцця – сапраўдны адпачынак. Змена мясцовасці ў разумных тэрытарыяльных межах спрыяе ўздыму эмацыйнага тонусу. Натуральна, што новыя цікавыя знаёмствы таксама ствараюць добры эмацыйны фон на ўвесь наступны год. А для беларусаў гэта вельмі істотна. Экалагічная сітуацыя ў рэспубліцы (наступствы Чарнобыльскай катастрофы, забруджанае паветра, вада), якая склалася ў выніку безадказных адносінаў чалавека да прыроды, заклікае нас да таго, каб мы адпачывалі ў экалагічна чыстых раёнах, дзе маглі б атрымаць асалоду ад чыстага ляснога паветра, вады.

Сёння цяжка знайсці ў Беларусі абсалютна здаровага чалавека. Таму правесці адпачынак ва ўмовах санаторыя будзе вельмі карысна. У санаторыі праводзіцца комплекс лячэбна-аздараўленчых мерапрыемстваў. Гэта водныя, гразевыя працэдуры, якія даюць зарад здароўя, нармалізуюць працэсы ў арганізме, дапамагаюць зняць псіхалагічныя стрэсы, якія мы зазнаем у нашым штодзённым жыцці. Дні адпачынку і лячэння ў санаторыі акупяцца ў будучыні. Я за правядзенне адпачынку на ўмовах санаторыю. Больш за тое, я б рэкамендаваў беларусам адпачываць у мясцовасцях, блізкіх да умоваў сталага пражывання. Беларусь знаходзіцца ў зоне кліматычнага камфорту, і перамяшчэнне ў паўднёвым напрамку патрабуе ад арганізму пэўнай адаптацыі. Гэты тэрмін займае, у залежнасці ад адлегласці, ад трох да сямі дзён. Вось і лічыце, калі вы паехалі на два-тры тыдні, то сем дзён адпачынку вы ўжо страцілі. Потым вы вяртаецеся назад ва ўмовы Беларусі, і пачынаецца працэс рэадаптацыі. А гэты працэс патрабуе яшчэ большага тэрміну – ад двух тыдняў да месяца.

Людзі, якія аддаюць перавагу адпачынку на поўдні, павінны памятаць таксама пра пагрозу розных відаў кішэчных захворванняў. Трэба быць вельмі асцярожнымі пры ўжыванні вады, розных экзатычных стравах. Змена часавага поясу таксама можа прывесці да дэсінхрозу. Гэта парушэнне біялагічнага рытму нашай дзейнасці. Праяўляецца ў санлівасці, затармажанасці. Я б сказаў, што аптымальным можна лічыць перамяшчэнне чалавека ў межах 800–1 000 км. ад месца сталага пражывання. Таму я б рэкамендаваў беларусам адпачываць у экалагічна чыстых мясцінах нашай краіны, Прыбалтыкі, Польшчы. У Беларусі гэта можа быць адпачынак на Нарачанскіх ды Браслаўскіх азёрах, у санаторыі «Сасновы бор» пад Радашковічамі для людзей з захворваннямі органаў дыхання, санаторый для дзяцей з бацькамі «Беларусачка», «Бавічок», «Радон» і інш.

Я прыхільнік сямейнага адпачынку. Дзеці павінны адпачываць з бацькамі. І выбіраючы месца адпачынку, бацькі абавязкова павінны пракансультавацца з педыятрам. Трэба быць упэўненым, што адпачынак пойдзе на карысць дзіцяці.

Людзям, якія абяруць далёкае падарожжа, трэба быць упэўненымі, што іх здароўе дазваляе экстрэмальныя нагрузкі на арганізм. Трэба абавязкова ведаць, у якое асяроддзе чалавек патрапіць, ехаць падрыхтаваным да магчымых інфекцый гэтай краіны.

Калі няма неабходнасці ў аздараўленні, то будзе карысным актыўны адпачынак. Гэта могуць быць розныя экскурсіі, падарожжы. Знаёмства з новымі гарадамі, пейзажамі, помнікамі архітэктуры робіць станоўчы ўплыў на нервовую сістэму, на эмацыйны фон здаровага чалавека».

Паколькі спадар Кашыцкі парэкамендаваў беларусам, якія жадаюць не толькі адпачыць, але і папраівць сваё здароўе, не адпраўляцца ў далёкія падарожжы, я паспрабавала высвятліць, што для нас прапануюць суседзі. Адным з самых прывабных для мяне месцаў падаецца Паланга.

**Пранас ЖЭЙМІС, мэр Палангі**: «Госці Палангі часта здзіўляюцца: «Ваш курорт увесь час прыгажэе. Адкуль бяруцца грошы?» Але па адказ далёка хадзіць не трэба. Так, мы не маем транзітнага порту і нафтавых свідравін. Затое мы маем іншую сталую крыніцу даходаў – турызм. За мінулы год Палангу наведалі каля паўмільёна турыстаў. І кожны з іх робіць свой унёсак у гарадскі бюджэт. Вось таму ў нас увесь час вядзецца рэканструкцыя дамоў адпачынку і будуюцца новыя гатэлі. Расце колькасць бараў, кавярняў, рэстаранаў, месцаў для адпачынку і забаваў. Можна смела сказаць, што сёння госць любога ўзросту з любым узроўнем патрабаванняў зможа знайсці сабе адпачынак па гусце.

Сёння да Палангі можна без праблемаў дабрацца на аўтамабілі, самалёце, цягніку, аўтобусе».

**Ала ВАЛУЖЭНЕ, дырэктар Інфармацыйнага цэнтру Палангі па турызме**: «Інфармацыйны цэнтр па турызме ў Палангзе ўваходзіць у сістэму інфармацыйных цэнтраў Літвы. Па статыстыцы, якую мы вядзём, беларусы займаюць адно з першых месцаў сярод наведвальнікаў. Гэта, відаць, звязана з блізкасцю нашых рэспублік. Беларусы прыязджаюць не толькі на летні адпачынак, але і на выхадныя. Статыстыка паказвае, што колькасць турыстаў з Беларусі з кожным годам узрастае.

У нас можна знайсці адпачынак па кішэні. Ёсць шыкоўныя гатэлі, санаторыі, дамы адпачынку. Пры жаданні можна знайсці сціплыя турыстычныя базы, гасцініцы, прыватны сектар.

Калі ў вас аформлена віза, вы можаце смела адпраўляцца ў дарогу. Звярніцеся ў інфармацыйны цэнтр у Палангзе, і вам заўсёды дапамогуць знайсці жыллё адпаведна вашым пажаданням і кашальку.

Найбольш турыстаў на ўзбярэжжы Балтыйскага мора ў ліпені. У гэтым месяцы прагрэецца вада і паветра. Чыстыя пляжы, паветра, марская вада, якаснае харчаванне – усё гэта спрыяльныя ўмовы для вашага адпачынку. Дактары лічаць, што галоўная перавага адпачынку на ўзбярэжжы Балтыйскага мора – загартоўка і танізуючы клімат. Такі клімат вельмі карысны для людзей, якія церпяць на гіпертанію, сухі бранхіт, радыкуліт, неўрозы і інш».

А што нам прапануюць вядомыя турыстычныя фірмы?

**Ларыса Іванаўна БОЙКА, дырэктар турыстычнага агенцтва *Smok travel***: «Як і летась, з Мінску будуць лятаць самалёты ў Турцыю, Грэцыю, Балгарыю, Іспанію. Пакуль што невядома, ці будзе рэйс у Харватыю.

Сярод беларусаў найбольш папулярнымі застаюцца Турцыя, Іспанія.

У сувязі з палесцінаізраільскім канфліктам амаль не стала турыстаў, якія жадаюць наведаць Ізраіль. Але гэта ніяк не паўплывала на кошты пуцёвак. Канфлікт паўплываў толькі на кошты ўнутры Ізраілю. Яны рэзка знізіліся. Таму на ўзбярэжжы Мёртвага мора сёлета можна адпачыць значна таннней».

**Ірына ШУМСКАЯ, кіраўнік аддзелу рэкламы кампаніі *Sakub***: «Летась у нас найбольш папулярнымі былі Іспанія, Балгарыя, Кіпр, Турцыя. Людзі жадаюць рамантыкі, пераключэння з бытавых праблем на што іншае. Іх чаканні апраўдваюцца.

Сталым попытам карыстаюцца курорты Крыму, Літвы, Польшчы. Апошнім часам стаў вельмі папулярным адпачынак у Егіпце. Але летам там вельмі горача. У Егіпце лепш адпачываць з кастрычніка па травень. Круглы год мы прапануем індывідуальныя туры ў любы пункт свету. Нельга сказаць, што падобныя прапановы карыстаюцца вялікім попытам, бо такія падарожжы каштуюць нямала. Але тым не менш



шмат беларусаў ужо наведалі Тайланд, адпачывалі ў Аўстраліі, Амерыцы, Ізраілі, на Сейшэльскіх ды Мальдыўскіх выспах.

Некаторыя замежныя турыстычныя кампаніі ўжо арганізуюць туры ў Антарктыду да пінгвінаў. Мы пакуль што гэтага не робім, але цалкам верагодна, што хутка і беларусы будуць мець такую магчымасць».

Сярод прапановў беларускіх турыстычных фірмаў ёсць самыя экзатычныя мясціны. Напрыклад, ці не хацелі б вы наведаць ЮАР, Канарскія выспы, Бразілію, Марока, Туніс? Туды давядзецца ляцець з Масквы або Варшавы. Такія падарожжы па кішэні толькі заможным беларусам, бо каштуюць ад 1 500 даляраў.

**Ірына КАЗАКОВА, генеральны дырэктар турыстычнай кампаніі «Грандсэрвіс тур»**:

«Апошнім часам падобныя прапановы сталі карыстацца попытам сярод беларусаў. Уся Еўропа даўно ўжо адкрыла для сябе адпачынак у Марока. Многія зацікавіліся адпачынкам на Мальце.

Некаторыя заможныя беларусы часам звяртаюцца да нас, каб мы арганізавалі для іх індывідуальныя туры. Гэта можа быць лячэнне, адпачынак, экскурсіі. Былі кліенты, якія жадалі наведаць Бразілію».

Вы прачыталі парады спецыяліста-медыка, пазнаёміліся з прапановамі турыстычных фірмаў, але выбіраць вам. Галоўнае, каб адпачынак пайшоў на карысць. Прыемных вам уражанняў і станоўчых эмоцыяў.

Падрыхтавала
Валянціна ЛЕЦКА

ЗДАРОЎЕ

## Абавязковую флюараграфію адменяць

*Абавязковае праходжанне флюараграфіі хуткім часам будзе адменена. Бліжэйшым часам Міністэрства аховы здароўя мае прыняць адпаведны дакумент. Як той казаў, адно лечым, іншае калечым: у запале барацьбы з эпідэміяй сухотаў насельніцтва апынулася пад пагрозай падвышэння рызыкі анкалагічных захворванняў.*

Паводле дырэктара Навукова-даследчага клінічнага інстытуту радыяцыйнай медыцыны і эндакрыналогіі Аляксея Акімава, флюараграфія выклікае 15% ракавых захворванняў. Прычым гэта тыя 15%, якіх магло і не быць, бо флюараграфічная радыяцыя – гэта не аварыя, яе можна пазбегнуць.

Па звестках Праматамнагляду, сярэдняя доза радыяцыйнага апраменьвання ад флюараграфічнага апаратаў перавышае норму ад 2 да 40 разоў. Гэта значыць, што, пры нармальнай дозе апраменьвання ў 0,4 мГр на адзін флюараграфічны здымак, мы можам атрымаць усе 16 мГр.

Доза радыяцыйнага апраменьвання, якую мы атрымліваем ад падобных «мірных» медычных крыніцаў радыяцыі, у 10–15 разоў перавышае чарнобыльскую. І флюараграфія – гэта толькі палова праблемы. Ёсць яшчэ і камп'ютэрныя рэнтгенаўскія тамографы, якія нясуць не менш небяспекі для здароўя. Таму, каб засцерагчыся ад залішняй дозы радыяцыі, медыкі раяць пазбягаць падобных метадаў абследавання, а пераключацца, напрыклад, на абследаванне пры дапамозе ўльтрагуку.

І ўсё ж такі адмаўляцца ад флюараграфіі цалкам ніхто не рызыкне, бо самім сабе выйдзе даражэй. Тут медыкі ўзгадваюць пасльячарнобыльскі вопыт, калі пасля аварыі, у страху перад радыяцыяй, флюараграфічныя абследаванні таксама былі адменены. На той момант узровень захворвання туберкулёзам складаў 29 выпадкаў на 100 тысяч насельніцтва. Многа гэта ці мала, сказаць цяжка. Калі параўноўваць з краінамі Еўропы, дзе гэты паказчык 7–10 выпадкаў на 100 тысяч насельніцтва, – гэта многа. Але на фоне Расіі (каля 70 выпадкаў на 100 000) ці краінаў Азіі (больш за 100 выпадкаў на 100 000) сітуацыя ў нас выглядала не настолькі ўжо і змрочнай.

Пасля адмены флюараграфіі статыстыка па сухотах пачала фіксаваць зніжэнне колькасці хворых, бо выяўляць іх стала цяжэй. І збольшага пад увагу медыкаў траплялі людзі ўжо з запушчанай стадыяй хваробы. У 1998 годзе, калі да абавязковых флюараграфічных абследаванняў вярнуліся, узровень захворвання ў краіне падвысіўся да 55 выпадкаў на 100 000 насельніцтва, а гэта ўжо эпідэмія. Зараз яго крывая «збілі» да 47,5 на 100 000 чалавек. Аднак самы жах – гэта турмы. Там на 100 000 чалавек 900 – хворыя на сухоты, а раней такіх было каля 2 000 на 100 000 чалавек.

Хаця, як прызнае міністр аховы здароўя Уладзіслаў Астапенка, усё гэта лічбы адносныя. Калі забяспечыць паліклініку новымі флюараграфамі – паказальнік выяўляльнасці хворых адразу палезе ўгару, а калі адмяніць абавязковае абследаванне – знізіцца. Аднак аб'ектыўна пры гэтым колькасць хворых не зменіцца.

Цяпер флюараграфічныя абследаванні будуць скіраваны на групы рызыкі: настаўнікаў, медыкаў, работнікаў гандлю. А каб і для іх знізіць неапраўданую рызыку апраменьвання, старое флюараграфічнае абсталяванне паціху пачнуць замяняць на новае. На гэта пойдуць грошы з праекту па барацьбе са СНІДам і сухотамі, які Сусветны банк рыхтуе сумесна з нашым урадам. Па звестках Сусветнага банку, рашэнне па ім урад мусіць прыняць бліжэйшымі тыднямі. Калі ён дасць на яго сваю згоду і ўнясе сваю долю – 17 мільёнаў даляраў, – то на вырашэнне гэтых праблемаў пойдзе сума ў 32 мільёны даляраў.

Алена ЛАБАНАВА

# Срэбраніца – ганьба не толькі для Нідэрландаў

**Уфэ ЭЛЕМАН-ЙЕНСЕН, былы міністр замежных справаў Даніі**

Злачынствы і жорсткасць адкідаюць доўгія цені. Урад Нідэрландаў сышоў у адстаўку з-за разні ў 1995 годзе, калі анклаў Срэбраніца, які, усе думалі, знаходзіўся «ў бяспецы» – пад аховай галандскага батальёна ААН – апынуўся ў руках узброеных да зубоў сербаў, пасля чаго былі забітыя прынамсі 7 000 баснійскіх хлопчыкаў і мужчын. Урад Нідэрландаў на чале з прэм'ер-міністрам Вімам Кокам сышоў у адстаўку пасля таго, як складзеная на яго даручэнне справаздача стала фактычна абвінавачаннем на адрас ураду 1995 году (на чале таксама са спадаром Кокам) у безадказных учынках і недаацэнцы пагрозаў, з якімі сутыкнуліся галандскія міратворцы.

Вядома, прыняць на сябе адказнасць за такі сур'ёзны пралік і сысці з-за гэтага ў адстаўку – высакародны ўчынак. Надта ж мала ўрадаў і палітыкаў здатныя на такое. Але адстаўка ўраду Кока не мае дачынення да ганьбы і прыніжэння ў Срэбраніцы. Яна толькі падкрэслівае той факт, што міжнародная супольнасць яшчэ не да канца разабралася з найбуйнейшым масавым забойствам у Еўропе з часоў Другой сусветнай вайны.

У Гаазе належала ўбачыць не толькі адстаўку ўраду Нідэрландаў, але, што важней, з'яўленне генерала Ратка Младзіча і ягоных супольнікаў на Міжнародным трыбунале па былой Югаславіі. Пакуль гэтыя людзі застаюцца на свабодзе, ганьба за падзеі ў Срэбраніцы будзе неадступна пераследаваць міжнародную супольнасць.



Былы камандзір баснійскіх сербаў, што аблажылі Срэбраніцу – Драган Абрэнавіч

Бальшыня людзей памятае тэлевізійныя кадры, на якіх генерал Младзіч прыніжае камандуючага галандскімі войскамі ў «бяспечным» анклаве Срэбраніца палкоўніка Тона Карэманса, прапануючы яму выпіўку і падарункі для сям'і. А затым галандскіх міратворцаў адаслалі з гораду, разам з жанчынамі і дзецьмі. У горадзе засталіся толькі хлопчыкі і мужчыны – засталіся, каб загінуць.

У маёй памяці назаўсёды застануцца не толькі гэтыя кадры, але і выгляд і пах тысяч напаўраскладзеных трупаў, звалених у дзве шахты каля Тузлы. Гэтыя трупы былі выняты з масавых пахаванняў вакол Срэбраніцы. У Тузле яны апынуліся дзеля доўгага і цяжкога працэсу ідэнтыфікацыі парэшткаў. Многія з ацалелых пасля падзеяў у Срэбраніцы тады яшчэ чапляліся за адчайную надзею, што мужы і сыны, якія прапалі без вестак, яшчэ жывуць і знаходзяцца недзе ў далёкіх лагерах. Яны мусілі *даведацца*, што адбылося насамрэч, перш чым спрабаваць жыць далей.

Пасля падпісання Дэйтанскага пагаднення пра Боснію была створана Міжнародная камісія па прапаўшых без вестак, каб высветліць лёс больш як 20 000 чалавек, што прапалі без вестак падчас грамадзянскай вайны ў Босніі. Пазней да гэтага спісу былі далучаныя яшчэ 10 000 чалавек з Косава. Задача здавалася невыканальнай. Але ў апошнія гады назіраецца значны прарыў. Новая ДНК-тэхналогія ў спалучэнні з камп'ютэрнымі праграмамі, што параўноўваюць атрыманыя звесткі з ДНК сваякоў прапаўшых, значна павялічылі колькасць праведзеных ідэнтыфікацыяў. Кожны дзень апазнаюцца раней не апазнаныя целы і адбываецца іх належнае пахаванне. Сёння, прынамсі, ужо вядома, што многіх тых, каго лічылі загінулымі, сапраўды няма ў жыцці.

Нарэшце і горкі раздзел пра Срэбраніцу ў гісторыі гэтай вайны набывае канчатковыя рысы. Але мы ўсё яшчэ не паклікалі да адказнасці тых, хто здзейсніў гэтае злачынства. Цалкам непрымальна, што такія людзі, як Ратка Младзіч, застаюцца на волі. Урад Федэратыўнай Рэспублікі Югаславія мог бы схапіць і выдаць іх – калі б схацеў. Пакуль што гэтага не адбылося.

Федэратыўная Рэспубліка Югаславія імкнецца да інтэграцыі ў Еўраатлантычную супольнасць. Яна пераследуе тры мэты: уступ у Савет Еўропы, сяброўства ў праграме *NATO* «Партнёрства ў імя міру» і падпісанне з Еўрапейскім Саюзам пагаднення пра стабілізацыю і супрацоўніцтва. Але каб уключыць Рэспубліку Югаславія ў міжурадавыя структуры, міжнародная супольнасць павінна ўжыць да яе такія ж высокія стандарты, якія стасуюцца да Харватыі і Босніі з 1996 году.

Пакуль генерал Младзіч і ягоныя прыспешнікі не сядуць на лаву падсудных у Гаазе побач са сп. Мілошавічам, нельга даць веры, што Федэратыўная Рэспубліка Югаславія сапраўды належыць да ліку дэмакратычных еўрапейскіх дзяржаваў, якія шануюць уладу закону. Калі перад ёю будуць пастаўлены тыя ж патрабаванні, якія даваліся выканаць іншым дзяржавам, гэта толькі ўмацуе пазіцыі абструкцыяністкіх сіл у Сербіі і нанясе ўдар па бяспецы яе суседзяў. Сяброўства ў міжнароднай супольнасці не можа прадстаўляцца са скідкаю.

**© Project Syndicate, красавік 2002**

# На шляху да звышдзяржавы

*Сучасны Кітай дэманструе свету дзіўнае сумяшчэнне несумяшчальнага. Кампартыя цалкам захавала манаполію на ўладу, але ў партыю ахвотна прымаюць капіталістаў.*

Кожны год каля 50 тысяч кітайскіх студэнтаў прыязджаюць вучыцца ў ЗША. А сотні мільёнаў сялян ніколі ў жыцці не пакідалі роднай правінцыі. Насельнікі «адмысловых эканамічных зонаў» даўно жывуць па законах сучаснага капіталізму, а згалелыя працаўнікі дзяржсектару па-ранейшаму бядуюць пад уладай усемагутнага чыноўніцтва.

## Залаты паток

Валавы нацыянальны прадукт Кітаю летась дасягнуў амерыканскага ўзроўню. А да 2010 году Кітай, па прагнозах Сусветнага банку, можа выйсці на першае месца ў свеце. Сярэднегадавыя тэмпы эканамічнага росту дзяржавы ў апошнія 20 гадоў трымаліся на адзнацы, блізкай да 10%, па іншых ацэнках – каля 16%. Сакрэт кітайскіх поспехаў намагалася разгадаць ранейшая савецкая бюракратыя. Аднапартыйнасць, памножаная на эканамічны росквіт, прываблівала камуністаў перыяду ўпадку, як Эльдарада – канкістадораў. Але пекінскія рэцэпты ім не маглі прыдацца. У кітайскай вёсцы эра сацыялізму была на два дзясяткі гадоў карацейшая, чым у савецкай. Калі ўлады пастанавілі распусціць народныя камуны (кітайскія калгасы), сяляне – а іх у КНР 900 мільёнаў – хутка падзялілі не толькі зямлю, але і інвентар: кожны лёгка мог адрозніць сваё ад чужога.

«Кітайскі цуд» немагчыма зразумець, не зважаючы на кітайскую дыяспару, хоць слова «дыяспара» не надта пасуе да замежных кітайцаў. Фармальна правільнае, яно не перадае маштабаў феномену. На пачатку 1990-х гадоў з'явіўся іншы тэрмін – «некамуністычныя кітайскія грамадствы». Апрача ўласна дыяспары, гэта і Тайвань, і нядаўна прылучаныя Ганконг і Макао – сукупна болей за 50 мільёнаў чалавек. А разам з імі – сотні мільярдаў, якія штогод укладаюцца ў кітайскую эканоміку, звыш трох чвэрцяў усіх замежных інвестыцыяў.

Кітайскае «рассеянне» мае вялізныя маштабы: у Малайзіі – 32% насельніцтва, у Тайландзе – 15%, у Інданезіі – 4%. Аднак фінансавая магутнасць дыяспары ўражвае яшчэ больш. Па розных ацэнках, выхадцы з Кітаю кантралююць уласнасць не меней чым на 2 трыльёны даляраў.

## Хто атрымае нябесны мандат?

У старшыні КНР Цзян Цзэміня – заходнія звычкі: ён не толькі добра гаворыць па-ангельску, але не супраць пры нагодзе заспяваць якую з песень Элвіса Прэслі. Гэта ён год таму ўрачыста абвясціў, што цяпер людзям бізнесу адкрыты шлях у партыю. Не дзіва, што за Цзянам замацавалася роля галоўнага кітайскага лібералa. Незвычайны і яго палітычны стыль: не імператар, якія абвяшчае ісціны, а майстар закулісных гульняў. Старшыня парламенту Лі Пэн, апякун кансерватараў і галоўная надзея правінцыйнага партыйнага чыноўніцтва, наадварот, увасабляе «імператарскі стыль». Абодвум ужо за семдзесят. Хоць, у кітайскім разуменні, гэта яшчэ не старасць, ва ўсялякім разе, не старасць палітычная.

Цзян і Лі сталі не толькі кіраўнікамі, але і сімваламі дзвюх супралеглых груповак у КПК – «прагматыкаў» і «постмадэрністаў». Апошні тэрмін (ён акрэслівае тых, каго расчараваў выніки мадэрнізацыі кітайскага грамадства) асабліва прыкметны: антырэфарматарскія настроі ўласцівыя не толькі ветэранам. Кітай «пасля рэформаў» уяўляе сабою далёка не лепшую карціну, і ў апошнія гады ўсё болей маладых бюракратаў папаўняюць кансерватыўны лагер.

## Лібералізм па-кітайску

Насуперак вядомым словам Андэрсена, не ўсе жыхары Кітаю – кітайцы. І нават не ўсе імператары. Жыццё дацкага казачніка прыйшлося на перыяд, калі кітайскі трон займаў не кітаец, а маньчжур. Бальшыня кітайцаў бачылі для сябе ў гэтым вялікую знявагу. Калі рэвалюцыя 1911 году скінула манархію, рэвалюцыйныя правадыры выразшылі: дамінаваць павінны кітайцы. Заўжды і ва ўсім.

У кітайскай інтэлігенцыі няма ні комплексаў што да прыгнечаных нацменшасцяў, ні сімпатыі да іх. Тым болей таківя комплексы і сімпатыі не ўласцівыя людзям улады. Заходнік Цзян Цзэмінь, прымаючы амерыканскага прэзідэнта, сурова асудзіў тэрарызм. Чаму б не? Толькі для яго тэрарызм увасабляюць уйгурскія сепаратысты. Тыя самыя, каго ўзнагароджваюць заходнія праваабаронцы. А ў паслужным спісе магчымага наступнага старшыні партыі і краіны ёсць і такі запіс: начальнік адміністрацыі Тыбету. На гэтай пасадзе Ху Цзіньтао вельмі жорстка здушаў любыя антыкітайскія выступы, чым заслужыў пахвалу кітайскіх лібералаў.

Мара кітайцаў – зрабіць Кітай звышдзяржавай. З магутнай арміяй, узброенай найлепшай ваеннай тэхнікай. Афіцыйна ваенны бюджэт Кітаю складае 20 мільярдаў даляраў. Але гэта толькі яго адкрытая частка, рэальна на армію выдаткоўваецца ў шмат разоў болей. Але грошай не хапае – зарплата кітайскага палкоўніка складае 50 даляраў. Патрэбны грошы і на новую тэхніку. На пачатак гэтага стагоддзя Кітай стаў галоўным імпарцёрам зброі ў свеце.

У кітайцаў добрая гістарычная памяць. Яны памятаюць 19-е стагоддзе – эпоху «опіумных войнаў», няроўных дамоваў з заходнімі краінамі, абразлівай залежнасці ад чужынцаў. Але памятаюць яны і іншае – тысячагоддзі імперскай велічы. Шмат стагоддзяў Кітай быў азіяцкай звышдзяржавай і цяпер напружвае сілы, каб вярнуцца да гэткага ж стану.

**Ej.ru**

# Высакароднае жыццё Тура Хейердала



Знакаміты нарвежскі падарожнік, антраполаг, даследчык Тур Хейердал сканаў 18 красавіка ў Італіі. Сотні мільёнаў людзей ва ўсіх краінах свету ведалі імя гэтага чалавека, чыталі яго кнігі, разам з ім хваляваліся загадкамі, якія пакінулі па сабе зніклыя цывілізацыі, любілі і шанавалі яго.

Сусветная слава прыйшла да Хейердала ў 1947 годзе пасля таго, як ён пераплыў Ціхі акіян на плыце «Кон-Цікі». Свае прыгоды ў часе гэтай экспедыцыі Хейердал апісаў у кнізе «Падарожжа на «Кон-Цікі», якая атрымала надзвычайную папулярнасць. Агульны тыраж кнігі на розных мовах (у тым ліку па-беларуску) склаў 60 мільёнаў экзэмпляраў, а дакументальны фільм пра гэтае плаванне быў ўганараваны прэміяй «Оскар».

Тур Хейердал нарадзіўся 6 кастрычніка 1914 году ў горадку Ларвік на поўдні Нарвегіі. Маці выхавала яго ў любові да прыроды. Вучыўся ён на факультэце заалогіі і геаграфіі універсітэту Осла. У 1936 годзе Тур разам са сваёй жонкай выправіўся на Маркізскія астравы ў Ціхім акіяне, дзе на працягу году вывучаў мясцовыя расліны і жывёлаў. У Палінезіі ён знайшоў мноства раслін, падобных да тых, што растуць у Паўднёвай Амерыцы. Гэта падштурхнула яго зацікавіцца параўнальным аналізам адлеглых адна ад адной мясцінаў.

Пазней Тур Хейердал арганізаваў некалькі даследчыцкіх экспедыцыяў, сярод якіх – плаванне на папіруснай лодцы «Ра» ад Афрыкі да астравоў Цэнтральнай Амерыкі, і падарожжа на трысняговым караблі «Тыгрыс» з Ірáку на паўночны ўсход Афрыкі напрыканцы 1970-х гадоў. Туру Хейердалу належаць значныя археалагічныя адкрыцці ў Палінезіі і Перу.

Летась знакаміты даследчык кіраваў археалагічнай экспедыцыяй на берагах Азоўскага мора. Хейердал імкнуўся давесці, што ў старажытнасці існавалі непасрэдныя сувязі паміж Скандынавіяй і Танаісам (Азоўскія стэпы). Ён высунуў тэорыю аб паўднёвым паходжанні вікінгаў і шукаў сляды ісіхняга жыцця ў Прыазоўі. Раскопкі ўскосна пацвердзілі звесткі сярэднявечнага ісландскага гісторыка Сноры Стурлусана аб тым, што герой мясцовых сагаў Одзін прыйшоў у Скандынавію з берагоў ракі Тана (Дон) ад народа, які называўся «азамі». Вучоныя перакананіся, што на месцы цяперашняга Азова ў I стагоддзі да нашай эры адбываліся вялікія дэмаграфічныя перамены, і, магчыма, там сапраўды жылі вікінгі. Хейердал распавёў пра гэта ў сваёй кнізе «Паляванне на Одзіна. Па слядах нашага мінулага». Над гэтай кнігай ён працаваў апошні год.

Мінулым летам Хейердал перанёс анкалагічную аперацыю на мозгу. Аднак гэтай вясной яго зноў адвезлі ў шпіталь. Канчатковы дыягназ – рак галаўнога мозгу. Хейердал прыняў дыягназ мужна, адмовіўся ад усялякай медыцынскай дапамогі, перастаў есці і папрасіў адвесці яго ў паселішча Кола-Мікеры на беразе Лігурыйскага мора ў Італіі, дзе ён правёў 20 гадоў свайго жыцця. «Ён хацеў адысці ў цішыні і спакоі», – сказаў яго сын Тур Хейердал-малодшы.

Апошнія 50 гадоў Хейердал быў самым вядомым нарвежцам у свеце. Яго іншым разам спрэчныя навуковыя гіпотэзы прымушалі мноства людзей на-новаму зірнуць на гісторыю чалавецтва, шукаць новыя доказы аб шляхах развіцця, росквіту і згасання цывілізацыяў.

# Пуціну патрэбны прыезд Папы ў Расію

Скандал вакол высылкі двух каталіцкіх святароў з Расіі мог быць справакаваны Масквою дзеля таго, каб прыспешыць прыезд Папы Рымскага ў Расію, цвердзіць «*Независимая газета*».

«Масква зацікаўлена ў як найхутчэйшым візіце Папы Рымскага ў Расію. Пуцін ужо не раз казаў, што ўжо даўно запрасіў бы пантыфіка, каб не супраціў кіраўніцтва РПЦ. Па ягоных словах, Ян Павел II не хоча ехаць у Расію без згоды Маскоўскай патрыярхіі», – піша *НГ*.

Нагадаем, што 19 красавіка расійскія ўлады адмовілі ў праве на ўезд у краіну каталіцкаму біскупу Ежы Мазуру – правячаму ардынарыю дыяцэзіі святога Язэпа з цэнтрам у Іркуцку. Апостальскі адміністратар Усходняй Сібіры прыляцеў у Маскву рэйсам з Варшавы, але мусіў пакінуць Расію, не атрымаўшы ніякіх тлумачэнняў.

Аналагічная гісторыя адбылася 5 красавіка з пробашчам каталіцкай парафіі ва Уладзіміры святаром Стэфана Капрыо. Ён вяртаўся з Мілану ў Маскву, але ў аэрапорце яму было абвешчана пра забарону на ўезд у Расію.



Канферэнцыя каталіцкіх біскупаў ужо выступіла з рэзкім пратэстам, заявіўшы, што «супраць Каталіцкай царквы ў Расіі разгорнута арганізаваная кампанія».

«Развязваючы такі гучны скандал з Ватыканам, Масква ставіць кіраўніцтва РПЦ у вельмі складанае становішча, бо ў кампаніі супраць каталікоў перадусім будуць вінаваціць якраз яе. Каб загладзіць скандал, Маскоўскай патрыярхіі давядзецца зрабіць шырокі жэст добрай волі ў дачыненні да Ватыкану. Іншымі словамі – даць згоду на візіт Папы», – заключае газета.

# Удар Касцянам

*У пісьменніцкіх колах нашай краіны – чарговая хваля абурэння, звязаная з захадамі Міністэрства інфармацыі па стварэнні медыя-холдынгу «Літаратура і мастацтва», які мае аб'яднаць шэраг культурніцкіх выданняў. Літаратары незадаволеныя і самой ідэяй холдынгу, і яго свежапрызначанымі кіраўнікамі.*

На мінулым тыдні міністр інфармацыі Міхаіл Падгайны прадставіў галоўным рэдактарам часопісаў «Полымя», «Маладосць», «Нёман», «Крыніца», «*Всемирная литература*», а таксама газеты «Літаратура і мастацтва» кіраўніка гэтага медыя-холдынгу, якім стаў не пісьменнік, не паэт, не журналіст, а дэпутат Палаты прадстаўнікоў Сяргей Касцян. Там Касцян займае пасаду намесніка старшыні камісіі па міжнародных справах. Ён мае рэпутацыю зацятага праціўніка NATO і славянафіла, па партыйнай прыналежнасці – камуніст. Да абрання дэпутатам Вярхоўнага Савету, а потым пераходу ў Палату прадстаўнікоў Сяргей Касцян працаваў у камсамоле і райкаме КПБ на Мазыршчыне, выкладаў марксісцка-ленінскае вучэнне ў Мазырскім педагагічным інстытуце. Карацей, дачыненне да беларускай літаратуры мае хіба толькі такое, што чытаў яе. Хоць у прынцыпе, пасля выпадку з Міхаілам Мясніковічам і Акадэміяй навук, можна не здзіўляцца.

У часе прадстаўлення на пасаду кіраўніка холдынгу Сяргей Касцян давёў, што ў праблемах з беларускай мовай і літаратурай, у тым, што няма вялікай падпіскі на літаратурна-мастацкія часопісы і газеты, вінаватыя ў першую чаргу пісьменнікі і супрацоўнікі гэтых выданняў, і цяпер ён са сваёй камандай нібыта будзе займацца падыманнем прэстыжу нашых пісьменнікаў, а таксама сапраўдным адраджэннем беларускай мовы і літаратуры.

А памочнікі ў Касцяна такія: ягонымі намеснікамі прызначаныя рэдактарка «*Всемирной литературы*» Таіса Бондар, вядучы праграмы «Па сутнасці» на Беларускім тэлебачанні Яўген Новікаў, які вядомы сваёй адыёзнасцю тым, хто яшчэ глядзіць БТ.

Але больш за ўсё беларускіх літаратараў абурыла не гэта: з'явілася інфармацыя, што ўжо афіцыйна прынятае рашэнне пра звальненне галоўных рэдактараў з больш як паловы выданняў, што ўваходзяць у холдынг. Прычым зроблена гэта без усялякіх тлумачэнняў і папярэдніх умоваў. На гэтым тыдні гэтыя пасады мусяць заняць новыя асобы. Гэтак пасады галоўных рэдактараў павінны пакінуць Сяргей Законнікаў з часопісу «Полымя», Алесь Жук – з «Нёмана», Генрых Далідовіч – з «Маладосці», Ала Канапелька – з «Крыніцы». На чале сваіх выданняў засталіся толькі Алесь Пісьмянкоў з газеты «Літаратура і мастацтва» ды Таіса Бондар з «*Всемирной литературы*». Замест Сяргея Законнікава прызначаны Мікола Мятліцкі, Генрыха Далідовіча – Раіса Баравікова, Алеся Жука – Ніна Чайка з Беларускага радыё, Алы Канапелькі – Вячаслаў Дашкевіч. Калі Дашкевіч, Чайка, Бондар – так бы мовіць, людзі Касцяна, праваднікі адпаведнай палітыкі, то ў Мятліцкага, Баравіковай ды Пісьмянкова – становішча вельмі далікатнае. Не выключана, што яны могуць адмовіцца ад рэдактарства. Праўда, пры гэтым існуе пагроза, што замест іх знойдуць кагосьці кшталту Чайкі. Супрацоўнікі літаратурна-мастацкіх выданняў падумваюць нават пра такі дэмарш, як масавае звальненне на знак пратэсту. Аднак, наўрад ці тое адбудзецца: нехта застанецца, каб змагацца за імідж выдання, дзе прапрацаваў многія гады, хтосьці застанецца, бо трэба карміць сям'ю. Але думкі пра звальненне ёсць у многіх. Ніхто не застрахаваны і ад сыходу не па сваёй волі, скажам, за няўгоднасць. Кіраўніцтва холдынгу ўжо абвесціла, што наперадзе чакаюцца значныя – да паловы штату – скарачэнні.


Фота IREX/ProMedia


Фота Ул. ШЛАПАКА

У «ЛіМе», «Полымі» ды ў іншых выданнях падзеі вакол холдынгавага будаўніцтва каментуюць проста: гэта выбіванне духу беларускіх пісьменнікаў і вымаганне адпаведнай грамадска-палітычнай пазіцыі гэтых часопісаў і газет. Пераканаліся тут на ўласныя вочы і ўласныя вушы ў гэтым і мінулай пятніцай, калі Сяргей Касцян са сваімі намеснікамі ездзіў па рэдакцыях шасці ўнутрыхолдынгавых выданняў і сустракаўся з іх калектывамі. Асабліва рэзкая сустрэча адбылася ў рэдакцыі «Полымя». Супрацоўнікі гэтага часопісу давялі Сяргею Касцяну, што шмат з таго, што ён нагаварыў у інтэрв'ю ў «*Белорусской деловой газете*», мякка кажучы, няпраўда. Уцямных адказаў кіраўнік холдынгу не даў. Цытата з Касцяна: *«...возьмем журнал «Полымя». Он издается тиражом в 229 экземпляров. Из них только 29 экземпляров – индивидуальная подписка. Это при том, что у нас только одних писателей около 500 человек»*. Чамусьці ані Касцян, ані журналісты «БДГ» не пагледзелі ў выходных дадзеных часопісу, дзе пазначана, што ягоны наклад сёння амаль 2,5 тысячы асобнікаў. А падпіска складае амаль 400. Цытата другая: *«В этом году тот же журнал «Крыніца» вообще ни разу не вышел в свет, имея при этом штат сотрудников в 20 человек»*. Хоць на самой справе сёлета выйшла тры нумары «Крыніцы». Ужо не кажучы пра ідэалагічныя зацятасці спадара Касцяна, узнікае пытанне, як ён можа брацца кіраваць холдынгам, не валодаючы сітуацыяй у асобных літаратурных выданнях.

Пісьменнікі апасаюцца, што абы-якое стварэнне холдынгу можа проста развалiць выданні, што маюць увайсці ў яго.

**Кірэй МАНУЙЛА**

МЕРКАВАННІ

# Праз «Курапаты» – да пакаяння

*Грамадскія арганізацыі Беларусі ўзгаднілі канцэпцыю мемарыялу ахвяр палітычных рэпрэсій «Курапаты» і накіравалі яе ва ўладныя структуры. Цяпер слова за імі...*

Дзяржава можа ўхіліцца ад дыялогу з грамадствам па гэтай балючай праблеме, а можа знайсці мужнасць уступіць у яго. Калі ўлады прымуць апошняе, гэта дае надзею, што памяць бязвінных ахвяраў будзе ўшанавана з улікам грамадскіх прапаноў, выкладзеных у канцэпцыі. Тым больш, што сваімі актамі ўлады ўжо прызналі ўрочышча гісторыка-культурнай каштоўнасцю «Месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій 30–40-х гадоў Курапаты».

Узвядзенне мемарыялу «Курапаты» сумеснымі намаганнямі грамадства і дзяржавы можа стаць значным крокам на шляху грамадскага пакаяння – пераасэнсавання мінулага, адмовы ад гвалту і вяртання да агульначалавечых маральных нормаў.

Разгледзім гэтае пытанне больш дэталёва і паразважаем разам з вамі, паважаны чытач. Як вядома, на шляху прыроджаных людскіх інстынктаў чалавецтва стагоддзямі будавала і ўзмацняла бар'ер з нацыянальных культурных традыцый і агульнапрызнаных нормаў маралі. Гэта дазволіла чалавецтву захавацца і выжыць у шматлікіх трагедыях гісторыі. На жаль, усе таталітарныя рэжымы, і савецкі камуністычны не выключэнне, разбуралі і вынішчалі гэты бар'ер разам з тымі яго абаронцамі, якія жылі паводле гуманістычных традыцыяў і маральных нормаў. Вяртанне ж грамадства да гэтых спрадвечных каштоўнасцяў, да сваіх каранёў і ёсць пакаянне – «добраахвотнае прызнанне ў зробленай правіннасці, памылцы», як трактуе яго «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы».


Фота IREX/ProMedia

Прычым гаворка ідзе пра пытанне грамадскага пакаяння перш-наперш за вольныя ці вымушаныя ўдзел людзей у злачынствах дыктатарскага рэжыму. Мне здаецца, што гэтае пытанне – актуальнае для беларускага грамадства, якое даволі марудна рухаецца па шляху пакаяння. Прычын тут шмат, але не на тое, каб іх разгледзець, пішуцца гэтыя нататкі. Трэба звярнуць увагу толькі на адну акалічнасць: шмат хто з адукаваных, інтэлігентных людзей, нават вядомых дзеячаў нацыянальнай культуры, лічаць, што праблема пакаяння тычыцца не іх асабіста, а кагосьці іншага. Гэтыя паважаныя людзі кажуць: «Асабіста мне няма ў чым каяцца». На мой погляд, кожнаму з нас ёсць у чым павініцца перад сабой, людзьмі і Богам за тое, чаго мы не зрабілі дзеля праўды, свабоды і прыстойнага жыцця.

Менавіта гэтыя паняцці і ляжаць у аснове людскога пакаяння, да якога так натужліва прабіваецца беларускае грамадства. Найбольш яскравай праявай гэтага імкнення якраз і стала справа абароны і мемарыялізацыі Курапат.

Чаму? Таму, што змаганне за Курапаты – гэта перш-наперш змаганне за праўду. Адкрытая ў 1988 годзе Зянонам Пазьняком і Яўгенам Шмыгалёвым гісторыя ўрочышча прымусіла грамадства іншымі вачыма пагледзець на сфальсіфікаванае мінулае Беларусі, пераасэнсаваць яго і звярнуцца да тых даследаванняў па гісторыі Бацькаўшчыны, якія грунтуюцца на дакументальнай спадчыне і вывучэнні нацыянальных культурных традыцый. Дзякуючы гэтаму беларусы адчулі сябе часцінкамі нацыі і яе гісторыі.

Змаганне за Курапаты – гэта змаганне і за свабоду супраць гвалту. Калі ўявіць, што найбольш канцэнтраваны выраз свабоды – талерантнасць, то свабодны чалавек перш-наперш павінен быць цярпімы да іншадумства і адмовіцца ад любой формы гвалту – духоўнага, псіхалагічнага, эканамічнага, ідэалагічнага, палітычнага і фізічнага. Бо любы гвалт нясе ў сабе нянявісць і не дазваляе людзям свабодна рэалізаваць свае здольнасці і памкненні. Курапаты сталі своеасаблівым сімвалам свабоды. Пра гэта сведчаць і лёсы людзей, забітых там у гады сталінскага генацыду, і ўся паваенная гісторыя ўрочышча. Асобнай гаворкі заслугоўвае абарона Курапатаў беларускай грамадскасцю ў 2001-2002 гадах, калі хлопцы і дзяўчаты паставілі ва ўрочышчы намёты і нясуць няспыннае дзяжурства, каб захаваць нацыянальны некропаль ад знявагі і разбурэння. Гэты валанцёрскі духоўны чын атрымаў высокую ацэнку айчыннага і міжнароднага грамадства. Дзякуючы мужнай ініцыятыве моладзі, а таксама дзейнасці недзяржаўных арганізацыяў, з'явілася магчымасць аб'яднаць грамадства ў справе распрацоўкі канцэпцыі мемарыялу і прымусіць улады прызнаць, што органы НКУС знішчалі ў Курапатах бязвінных людзей.

І апошняе. Змаганне за Курапаты – змаганне за прыстойнае жыццё, заснаванае на агульначалавечых нормах маралі. Менавіта пры іх укараненні грамадства вяртаецца з абсурднага ў нармальны стан. Калі дзяржава служыць чалавеку і абараняе яго ў цяжкую хвіліну. Калі людзі шукаюць вытокі сваіх праблем не ў іншых, а ў сабе. Калі чалавек імкнецца да сумленнага, высакароднага і годнага жыцця. Пра гэта думаюць тыя, каму «баляць» Курапаты...

**Марат ГАРАВЫ**

# Агрэсія супраць літаратараў

*Сяргей Законнікаў каментуе сітуацыю, што склалася вакол «медыя-холдынгу».*

– Званкі да мяне ідуць бесперапынна ўсе гэтыя дні. Склалася такая сітуацыя, у якой нармальны чалавек нічога не зразумее, што такое робіцца. Хаця можна спрагназаваць, у што ператвораць «ЛіМ» і часопісы Касцян і яго каманда. Выйдуць наступныя нумары – і мы ўбачым змест гэтых нумароў. На сустрэчы Касцян сказаў так: усе рэдакцыі як бы спыняюць сваю работу, у кожнай рэдакцыі будуць створаны ліквідацыйныя камісіі, і на працягу гэтага тыдня справы будуць перададзеныя холдынгу. Дагэтуль няясна: хто будзе набіраць новыя штаты, хто даў паўнамоцтвы Касцяну займацца гэтымі аргпытаннямі, у тым ліку здымаць рэдактараў. Усе рэдактары заключылі кантракты з міністрам інфармацыі Падгайным, і гэта будзе рабіць Падгайны. А Касцян – не ведаю па чыёй ініцыятыве – зараз ходзіць па рэдакцыях і праводзіць сходы.


Фота IREX/ProMedia

***– Што Вы можаце адказаць на папрокі на адрас «Полымя»? Касцян, да прыкладу, заявіў, што часопіс мае толькі 29 экземпляраў па падпісцы...***

– Адкуль у галаву Касцяну прыйшла гэтая лічба – ён не адказаў. Пры сустрэчы з ім я ўзяў у рукі «БДГ», паказаў інтэрв'ю і запытаўся, адкуль ён гэта ўзяў. Кажу, калі б вы бралі ў рукі калі-небудзь часопіс, вы ўбачылі б, які ў нас наклад. Я працягваю яму часопіс – а ён нават не ведае, дзе друкуюцца гэтыя лічбы. Такія людзі, як Касцян, Новікаў, Чайка, далёкія ад гэтага працэсу, не падрыхтаваныя. У іх ёсць адно – агрэсія супраць нармальнай літаратуры. Ператварыць гэтыя выданні ў славяна-сабораўскія – вось іх задача.

***– Што можа зрабіць у гэтай сітуацыі Саюз пісьменнікаў, які выступае заснавальнікам усіх выданняў?***

– Саюз пісьменнікаў 23 красавіка збірае Раду. На Радзе будзе прынятае рашэнне па тэрмінах надзвычайнага з'езду, і будзе створаны аргкамітэт па правядзенні з'езду. Рада будзе пашыраная, бо народ падняўся – нават старыя пісьменнікі, якія хадзіць не могуць, сказалі, што па тэлефоне ў гэты дзень будуць гаварыць сваё слова. Знішчэнне нашых часопісаў, умяшанне ў працэс людзей недасведчаных, невукаў, цемрашалаў выклікала вельмі рэзкую рэакцыю ўсіх бакоў. Нават тыя, хто быў балотам, заяўляюць, што гэта – наступ на апошні астравок беларускасці ў нашай рэспубліцы.

**Гутарыў Рыгор БУЯН**

# Мы выйгралі чэмпіянат свету

## *Пакуль у групе «Б»*

Гэты год можна назваць сапраўды трыумфальным для беларускага хакею. Столькі здабыткаў разам дагэтуль не было ніколі, ды ніхто пра іх нават не марыў. Апошнім з іх стала перамога нацыянальнай зборнай Беларусі на чэмпіянаце свету ў групе «Б» з правам на наступны год выступаць у вышэйшым дывізіёне.

У апошніх дзвюх гульнях беларусаў чакалі значна больш цяжкія сапернікі, чым на старце. Зборная Казахстану, выхаваная, гэтак жа як і беларусы, на савецкай школе хакею, зараз амаладжваецца, і тым не менш здолела аказаць годны супраціў. Беларусы вырвалі перамогу толькі ў апошнім перыядзе з лікам 6:4. Яшчэ больш драматычна складалася гульня супраць асноўнага канкурэнта на месца ў эліце – зборнай Францыі. Дзякуючы відавочна перадузятаму арбітражу беларусы большую частку гульні прабылі ў меншасці і забівалі на контратаках. Тым не менш, лік 3:1 на нашу карысць, а Уладзімір Цыплакоў – лепшы бамбардзір, нападаючы і гулец турніру ў галандскім Эйндховене.

Варта ўспомніць, што сёлета беларусы дабіліся поспехаў і на маладзёжным першынстве свету: засталіся ў эліце. А на юнацкім першынстве свету беларусы ўвогуле сталі галоўнай сенсацыяй, апынуўшыся на пятым месцы і пакінуўшы за сабою такія моцныя краіны, як, прыкладам, Швецыя і Канада. Апошніх беларусы перамаглі з лікам 5:3!

Ну і, вядома, галоўная перамога сезона – гэта чацвёртае месца на алімпіядзе ў Солт-Лэйк-Сіці, перамога ў чвэрцьфінале над шведамі 4:3 і фантастычны гол Уладзіміра Копаця.

Такімі тэмпамі, калі толькі поспехі будуць паўтарацца, хакей вельмі хутка можа стаць у Беларусі больш папулярным, чым футбол, інакш кажучы, стаць у краіне спортам №1. Калі, вядома, футбалісты не адкажуць майстрам клюшкі сваімі доўгачаканымі поспехамі ўвосень.

**Аляксей СТАЎСКІ**

# Супервіягра

Нярэдка на старонках розных выданняў з'яўляюцца паведамленні пра вынаходку чарговых сенсацыйных лекаў. Пасля з'яўлення на рынку славутай «Віягры» канкурэнты яе вытворцы – кампаніі *Pfizer* – літаральна начэй не спяць, каб прапанаваць спажыўцам яшчэ больш дзейсны сродак.

Выклік «Віягры», першым таблеткам для лекавання імпатэнцыі, што з'явіліся на рынку ў 1998 годзе, ужо кінулі кампаніі *Bayer AG* і *Eli Lilly & Co*, прадставіўшы свае новыя прэпараты. А спецыялісты фармацэўтычнай кампаніі *Nastech* нават правялі выпрабаванні лекаў для барацьбы з парушэннямі эрэкцыі, якія можна будзе ўводзіць у нос.

Цяпер пра распрацоўку новага сродку для лячэння полавай дысфункцыі ў мужчын загаварылі мексіканскія спецыялісты з лабараторыі *Abbott*. У адрозненне ад другіх сродкаў, заявіў кіраўнік групы даследчыкаў Марцін Брава, дзеянне новага прэпарату пачынаецца ўжо праз 20 хвілін пасля ўжывання. Паводле ягоных словаў, цяпер лекі знаходзяцца на стадыі апрабацыі ў Міністэрстве аховы здароўя Мексікі.

Ён нагадаў, што «Віягра» пачынае дзейнічаць толькі праз гадзіну, – а гэта спараджае шмат нязручнасцяў. Яна служыць тэмаю бясконцых анекдотаў, у якіх яе параўноўваюць з Дыснейлэндам: чэргі на атракцыёны вымяраюцца гадзінамі, а асалода – хвілінамі.

Акрамя таго, як адзначыў вучоны, у адрозненне ад «Віягры», спажыванне якой паказана не часцей як раз на суткі, новы прэпарат можна прымаць ужо праз 8 гадзін.

Гаворка ідзе пра таблетку чырвонага колеру, якая мае ў сваёй аснове хімічнае злучэнне – хлоргідрат апамарфіну. Таблетку кладуць пад язык, яна хутка рассмоктваецца і, паступаючы ў кроў, наўпрост уздзейнічае на мозг. Для яе ўжывання пажылым людзям не патрабуецца захоўванне адмысловай дыеты, а пабочныя эфекты прэпарату – мінімальныя. Паводле словаў спецыяліста, у некаторых выпадках адзначаецца лёгкая млосць, але толькі на пачатку ўжывання, потым гэтыя праявы хутка праходзяць.

Дарэчы, згодна з медыцынскай статыстыкай, на парушэнне эрэкцыі церпяць прыкладна 150 млн. мужчын у свеце, асабліва ў веку старэйшым за 40 гадоў. Так што можна не сумнявацца, што кожная фармацэўтычная кампанія знойдзе пакупнікоў на сваю прадукцыю.

# «Каўбой палётаў» учыніў самагубства

*«Я ўпэўнены, што бацька хацеў зрабіць сабе смерць. Апошні тэлефонны званок: «Я згалеў, у мяне забралі мільён даляраў».*

«Ну які няшчасны выпадак? Гэта самагубства, самагубства, можаце вы гэта зразумець?! Яго хацелі падставіць, эканамічна здушыць, вось ён і зрабіў сабе смерць». Марка Фазула крычыць не сваім голасам. Ён – адзін з сыноў Луіджы Фазула, пілота з італьянска-швейцарскім грамадзянствам, які ўрэзаўся ў небасяг «Пірэлі». Марка, які гасіць святло ў сучасным доме з чырвонай цэглы на вуліцы *Via Ceresio*, таксама пілот. Ён працуе ў авіякампаніі *Swiss Air* і гэтаксама, як і прыяцелі ягонага бацькі і як дырэктар аэрапорту ў Лакарна Сандра Балестра, упэўнены, што Луіджы Фазула, надзвычай дасведчаны пілот з трыццацігадовым стажам, «не мог дапусціць памылкі».

«Джынета, як яго называлі блізкія, апошнімі днямі здаваўся прыгнечаным», – расказвае сябар пілота Франка, былы італьянскі парашутыст, які цяпер жыве ў Бразіліі. Фазула запрасіў яго ў нядзелю. «Я загінуў, – сказаў ён мне на нашым дыялекце, – у мяне забралі ўсё, што было. Адна тутэйшая групоўка забрала ў мяне мільён даляраў. Ён хацеў, каб я прыехаў у Швейцарыю, – працягвае Франка, – і дапамог яму вярнуць грошы. Але я адказаў яму, што хворы і не магу зрушыцца з месца».

Апошняй, хто бачыў яго, калі а палове чацвёртае ён падаўся ў аэрапорт *Magadino* ў Лакарна, была 14-гадовая Сабрына, суседка. «Я прывітала яго, ён быў, як заўсёды, вельмі ветлівы і прытармазіў машыну, каб я магла перайсці цераз дарогу». Вясёлы, невысокага росту, паўнаваты, заўсёды па-спартыўнаму адзеты 65-гадовы Луіджы Фазула меў сям'ю – жонку Філамену і сыноў Марка, пілота, і Джорджа, інжынера. Гэта быў чалавек з сотняй прафесій. Родам з Казерты, сын маці-адзіночкі, Луіджы спачатку вучыўся ў каледжы, потым пераехаў у Тычына, дзе пачаў рамантаваць электрапрыборы. Потым адкрыў уласны бар *Micki*.



Але пашчасціла яму якраз з самалётамі. Ён быў не толькі пілотам, але і гаспадаром маленькага прадпрыемства аэратаксі і прадаўцом самалётаў. Акрамя таго, ён меў невялікую справу па арганізацыі продажаў твораў мастацтва; гэтаму ён навучыўся ў свайго сябра Арацыо Баньяска, жэнеўскага прадпрымальніка, які жыў у Лугана, а пазней знік, і якога Фазула не раз вазіў па свеце на сваім самалёце. «Ён быў як бы яго асабістым пілотам», – успамінаюць знаёмыя. І якраз з гэтай новай дзейнасцю і былі звязаныя яго апошнія эканамічныя цяжкасці. Хоць, на думку пляменніка, «фінансавых праблем у яго не было».

«Учора ў клубе ён быў вельмі спакойны, калі браў свой самалёт», – успамінаюць у аэраклубе Лакарна. Самалёту было ўжо 26 гадоў, але ён меў выдатныя тэхнічныя характарыстыкі, асабліва для «такога кароткага і руціннага палёту, як 20 хвілін да Лінатэ з поўным бакам паліва», – расказвае Джанлука Сарторы з авіяцыйнай службы па экстранных сітуацыях. Ён узляцеў паводле раскладу, а 17.30. Бездакорны манеўр. «Ён выдатна лятаў, ніколі не хваляваўся, з ім усе адчувалі сябе спакойна», – успамінае Джорджа Б'янкі, сябра Луіджы і таксама пілот. Але бываў і ліхачом. «Каўбоем палётаў» называў яго інструктар Лука Педраліні.

Луіджы стаў сябрам і пілотам вельмі значных людзей: прадпрымальнікаў, банкіраў, фінансістаў, актораў. «Ён не раз вазіў мяне з Сардзініі ў Мілан, разам з сям'ёй, – успамінае Разана Ск'яфіна. «Я асабіста ведаў яго, гэта быў прафесіянал», – кажа Франчэска Мікелі, прэзідэнт *e-Biscom*. У ягоным жыцці была ўсяго адна аварыя, у 1983 годзе, калі, чарговым разам выявіўшы нястачу паліва, ён разбіў самалёт на пасадцы, абвінаваціўшы ў гэтым дыспетчарскую службу, якая дала яму няправільную інфармацыю пра вецер. У астатніх выпадках, як успамінае Джордж, таварыш па палётах, яму ўдавалася прызямліцца: у Трыпалі падчас буры, у Парыжы ў тумане, у Цюрыху на лузе. «Незвычайнае валоданне сабою».

Таму ніхто з ягоных блізкіх і сяброў не верыць у памылку. П'етра Марчы, былы кіраўнік аэраклубу Лакарна, кажа, што гэтая сітуацыя невытлумачальная: «Як сталася, што ён кружыў над Міланам у зоне, у якой палёты забароненыя? Калі яму трэба было прызямліцца ў Лінатэ, то ён зусім збіўся з курсу. Яму трэба было ляцець у зусім процілеглы бок».

**La Repubblica (Італія)**

# Мафія нявечыць юных баксёраў

Злева, у цёмных шортах (вага 31 кілаграм, рэкорд – 33 перамогі і ўсяго толькі шэсць паражэнняў) – найлепшы малы баец Бангкоку: вялікі Вірашарт. Справа (33 кілаграмы, 30 перамог і 10 паражэнняў, светлыя шорты і яшчэ не зажылы шрам, атрыманы ў апошнім паядынку) – спрытны Чаклі. Ні таму, ні другому няма яшчэ і трынаццаці гадоў. Арбітр абвяшчае пачатак паядынку, і малыя баксёры пачынаюць наносіць першыя ўдары. Засцярогі няма ніякай, суперніка можна біць каленкамі, кулакамі, нагамі і локцямі. Муай-тай, або таіландскі бокс, практыкуецца ў каралеўстве Сіям з тых часоў, як шмат гадоў назад воіны Таіланду і Бірмы карысталіся ім у рукапашных баях.

Сёння, пагарджаючы старадаўнімі традыцыямі і сучаснымі законамі, таіландская мафія нажываецца на арганізацыі паядынкаў, у якіх твар у твар сыходзяцца праціўнікі, ростам толькі крыху вышэйшыя за канаты, нацягнутыя вакол рынгу.

Дзякуючы мільённым стаўкам баксёрскія паядынкі сярод дзяцей квітнеюць. Удзельнікі паядынкаў, траўмы ад якіх, здараецца, пакідаюць іх калекамі на ўсё жыццё, пачынаюць трэніравацца з сямі гадоў у таемных лагерах, размешчаных паблізу ад стадыёнаў і спартыўных павільёнаў. Якраз адтуль іх пасылаюць на рынг, калі палічаць «падрыхтаванымі».

«Я хачу выйграць усе паядынкі, каб калі-небудзь мяне ўсе пазнавалі», – казаў перад пачаткам паядынку поўны надзеяў Чаклі. Пасярэднікі паабяцалі яму каля 15 еўра ў выпадку перамогі і нічога, калі ён прайграе. Ён прайграў. Паўсотні падлеткаў трэніруюцца ў спартыўнай залі ў прыгарадзе Бангкоку – Кіякайі. Яны спяць і ядуць у лагеры, займаюцца па шэсць гадзін у дзень і спяць у свінухах. Часам за адзін дзень яны робяць да 1 000 практыкаванняў на прэс, 300 ударaў каленам і 300 кулаком па напханым мяху, выконваюць па 50 адцісканняў у некалькі падыходаў. Акрамя таго, удзельнічаюць у трэніровачных баях. «Баі вядуцца без засцярогі, каб хлопцы прывыкалі атрымліваць удары», – кажа адзін з трэнераў.

Мафіёзі ўпадабалі гэты від спорту, і іх зусім не хвалюе, што можа стацца з дзецьмі.

**El Mundo (Іспанія)**

# Астралагічны прагноз

## ад Веранікі Кудраўцавай на 23 – 29 красавіка

***Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне грунтуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.***



**АВЕН.** Нехта можа ўвайсці ў траўманебяспечны перыяд як у фізічным, так і ў фінансавым сэнсе. Аднак прасоўвацца да пастаўленых мэтаў і вырашаць юрыдычныя пытанні цалкам магчыма, абы шанаваць сябе і не захапляцца фінансавым бокам пытання. У пятніцу і суботу найсвятлейшыя пачуцці накіраваныя на годны аб'ект. Дый вы робіцеся яшчэ прывабнейшы.



**ЦЯЛЕЦ.** Вам спатрэбіцца імгненна арыентавацца ў лабірынтах указанняў начальства. Верагодна, вы нечакана зробіце важны прафесійны выбар. Можна правесці ў чацвер рамантычны вечар, афарбаваны моцнай стыхійнай энергетыкай і духоўным узаемаразуменнем. А вось у пятніцу нагадайце каму трэба, што варта вучыцца плаціць за працу.



**БЛІЗНЯТЫ.** Лепш, каб буйных дасягненняў у аўторак было меней, бо ў іх можа быць схаваны падвох. Вы не ў найлепшай эмацыйнай форме, увесь час нешта здараецца і выклікае лёгкія эксцэсы. У пятніцу і суботу азірніцеся навокал і настройцеся атрымаць асалоду ад дробных радасцяў, ад надвор'я, музыкі, добрага настрою. Жанчына гатова адкрыць вам будучыню ў гэтыя дні.



**РАК.** У групавых мерапрыемствах верагодныя непрадбачаныя эксцэсы. Беспрынцыповасць – не такая і рэдкасць у гэты перыяд. У нядзелю не патрапце на вуду, успрымаючы тое, што хочацца пачуць, а не тое, што ёсць насамрэч. Хоць ці варта звяртаць увагу на дробную хлусню, перажываць з гэтай нагоды, калі можна заняцца надзённымі справамі, не слухаючы чужых парад і абяцанняў?



**ЛЕЎ.** Нехта здатны «трапіць у яблычка», раскрыць незразумелыя раней з'явы, расшыфраваць, як разведчык, падаплёку абставінаў. Някепска было б у пятніцу падумаць, а то і ўзняць пытанне пра змену калектыву ці атрыманне большых паўнамоцтваў у працы. Хоць вы не вельмі верыце ў пачуцці на адлегласці, але калі гэта лёс, то раман з замежным падданым можа атрымаць развіццё.



**ДЗЕВА.** Пажаданні і мары што да матэрыяльнага дабрабыту, любоўнага клопату могуць на момант увасобіцца ў жыццё і быць прынятымі за праўдзівыя. Не спяшайцеся рабіць высновы. Кашалёк да пятніцы варта трымаць закрытым. Да выходных ад ваганняў можна перайсці да дзеянняў, грунтаваных на праўдзівых пачуццях. Калі ж прыкідваць, разлічваць і выгадваць, толку не будзе.



**ШАЛІ.** Вам уласцівы эмацыйная непаслядоўнасць, імкненне да асабістай свабоды. Але варта ўлічваць, што настроіць некага на тое самае будзе няпроста. У пятніцу могуць адкрыцца вочы на таго, хто варты любові. Тады не саромцеся сваіх пачуццяў. І калі знойдзеце водгук, то чаму б не спыніцца на думцы, што патрэбны чалавек, аказваецца, хадзіў недзе побач?



**СКАРПІЁН.** Як бы не заблудзіць, вырашаючы дылему пра пачуцёвае каханне ці пра шлюб з пачуццём абавязку, «па розуме». У сужонка заблытаная сітуацыя, верагодна – са здароўем, але праўда праясніцца бліжэй да пятніцы. У выходныя ёсць сэнс лішні раз зрабіць захады дзеля бяспекі, бо можна незнарок увязацца ў экстрэмальную сітуацыю, бойку, прыцягнуць да сябе ўсплёск гвалту, псіхічна неадэкватных людзей.



**СТРАЛЕЦ.** Гутаркі пра грошы ў родным доме з пачатку тыдня някепска было б бліжэй да пятніцы перавесці ў рэчышча шчырых партнёрскіх адносін, заснаваных на ўзаемавыручцы. Рэч не ў тым, што лагоднае слова і кошцы прыемна, а ў фундаменце будучага шчасця. З партнёрам паўтараецца сітуацыя, якую вы ўжо некалі перажылі. Магчыма, ёсць патрэба зрабіць «работу над памылкамі».



**КАЗЯРОГ.** Асцярожна выбірайце сабе сяброў, дзелавых партнёраў, фінансавую тактыку, бо могуць узнікнуць ненадзейныя адносіны, асабліва ў аўторак і сераду. Няма падставаў разлічваць, што сімпатыя да вас пераважыць дзелавыя інтарэсы. Не было б шчасця, ды няшчасце памагло: вось вы і пабачыце, чаго вартыя вашы асабістыя прыхільнасці. Стаўце для сябе фундаментальныя пытанні.



**ВАДАЛІЎ.** Калі зможаце рэальна давесці, што ў цяжкую хвіліну гатовы шмат аддаць дзеля блізкага чалавека, то вельмі хутка ўбачыце, што Бог не пакіне вас у вашых добрых справах. У пятніцу варта больш слухаць жанчыну і выконваць яе пажаданні. Бліжэй да выходных варта паджывіць радаснае ўспрыняцце жыцця, зладзіць хоць малое, але свята, схадзіць на нейкае культурнае мерапрыемства.



**РЫБЫ.** Прысутнічае спакуса пры сустрэчы з людзьмі, якія «мякка сцелюць», і тут ужо можна пацярпець ад хлуслівых супакойлівых аргументаў у аўторак і сераду. У пятніцу верагодныя грошы як заслужаная ўзнагарода, каштоўны набытак. Калі падобных падзеяў не адбываецца і настрой на нулі, значыць, вы нешта няправільна робіце ў гэтым жыцці, і, ліквідаваўшы прычыну, даможацеся гармоніі.

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1147 Нумар падпісаны ў друк 22/04/2002 (15:00) Наклад – 7.340